# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

2 жніўня 2019 года №31 (1266) 18+










# Вілейскія актывісты б'юць трывогу: ручыцкія капліцы могуць разбурыцца




2030 г.

старонка 2

Фота забяспечаны Паўлам КАВАНСКІМ.

## П'яны бацька ўдарыў сына металічным шуфлікам. Хлопца шпіталізавалі

старонка 4

## «Старажытная Літва не была дзікім краем». Як прайшлі раскопкі ў Крэве

старонка 5

## Рыбак: Ушу многія дарма не ўспрымаюць усур'ёз

старонка 3

ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/




Фота з архіва «РГ».

Так выглядаў маёнтак Агінскіх у Ручыцы да Другой сусветнай вайны.

# Вілейскія актывісты б'юць трывогу: ручыцкія капліцы могуць разбурыцца

**У Вілейскім раёне ад летняга маёнтка Агінскіх засталіся ўсяго дзве капліцы. Гэта адзінае, што нагадвае пра вялікі сядзібна-паркавы комплекс, які быў пабудаваны ў 1765 годзе. Вілейскія актывісты і сябры суполкі аховы помнікаў расказваюць, што капліцы могуць разбурыцца канчаткова ўжо зусім хутка.**

### «Трэба працаваць ужо цяпер»

У 1765 годзе архітэктар **Тадэвуш Жаброўскі** завяршыў будаўніцтва летняга маёнтка Агінскіх у Ручыцы. У тым жа годзе пабудавалі і капліцы, якія сталі часткай сядзібна-паркавага ансамбля. Палац быў разбураны ў 1943 годзе, і ад маёнтка засталіся толькі дзве капліцы.

– Гэта адзіныя старыя пабудовы, якія захаваліся ў гэтых мясцінах. І Клеафас Агінскі любіў адпачываць у Ганусе», – расказвае кіраўнік вілейскай суполкі аховы помнікаў **Дзяніс Канецкі**.

Сябра гэтай суполкі **Павел Хаванскі** расказвае, што архітэктурныя помнікі знаходзяцца ў дрэнным стане. У 2009 годзе актывісты усталёўвалі драўляныя навесы над імі, каб захаваць ад неспрыяльных умоў надвор'я. Праз нейкі час ужо сельвыканкам зрабіў такія ж навесы. Па словах Хаванскага, гэтага цяпер недастаткова.

– Капліцы ўсё роўна разбураюцца. Неабходна працаваць ужо цяпер, і таварыства аховы помнікаў дзейнічае ў гэтым накірунку. Але таксама трэба разумець, што дадзеныя помнікі на балансе сельвыканкама, – распавядае Павел.

Згодна з Законам «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі» мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы ўдзельнічаюць у рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў сферы аховы гісторыка-культурнай спадчыны.

Вёска Ручыца знаходзіцца ў складзе Нарочкага сельвыканкама. Выканальнік абавязкаў старшыні **Вольга Гром** адказала, што капліцы знаходзяцца пад кантролем, але на дадзены момант ніякіх каментароў да выхаду старшыні з адпачынку сельвыканкам не дае. Яна патлумачыла, што, хутчэй за ўсё, пытанні па капліцах будуць вырашацца напрыканцы жніўня.

### Разбурэнне культурнай спадчыны асуджае міжнародная супольнасць

У 2016 годзе Савет па правах чалавека аднагалосна прыняў рэзалюцыю, у якой заклікае ўсе дзяржавы выконваць, заахвочваць і абараняць правы кожнага чалавека прымаць удзел у культурным жыцці, уключаючы магчымасць доступу да культурнай спадчыны і карыстання ёй.

У гэтай заяве асуджаецца наўмыснае разбурэнне культурнай спадчыны. Там утрымліваецца заклік да выяўлення прыкладаў перадавой практыкі для яго папярэджання, а таксама да «павышэння дасведчанасці аб сувязі паміж аховай культурнай спадчыны і правамі чалавека і пра рызыкі, з якімі сутыкаюцца абаронцы культурнай спадчыны».

Праваабаронца **Эдуард Баланчук** лічыць, што Міністэрства культуры таксама павінна сачыць за станам архітэктурных помнікаў.

– На гэта павінны выдаткоўвацца сродкі, праводзіцца адмысловыя работы. Помнікі павінны мець «чалавечы» выгляд, – кажа Баланчук.



Фота забяспечанае Паўлам ХАВАНСКІМ.

Адна з капліц – тая, што знаходзіцца каля лесу. 2019 год.

### Міністэрства культуры: капліцы на балансе Нарочкага сельвыканкама

Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» звязалася з начальнікам упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры **Наталляй Хвір**. Хвір растлумачыла, што рэшткі былой сядзібы пад наглядам мясцовага органа кіравання. Капліцы на балансе Нарочкага сельвыканкама таму, што яны ўключаныя ў трэцюю катэгорыю аб'ектаў аховы.

Капліцы знаходзяцца ў спісе гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі. Усе аб'екты, якія ёсць у гэтым спісе, падзяляюцца на катэгорыі. Ручыцкія капліцы ўключаныя ў трэцюю катэгорыю. Гэта катэгорыя помнікаў – аб'екты рэгіянальнага, мясцовага значэння. Як правіла, яны фінансуюцца са сродкаў мясцовага бюджэту.

– Зыходзячы з палажэння заканадаўства – Кодэкса аб культуры і Закона аб мясцовым кіраванні – мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы нясуць адказнасць за захаванасць помнікаў культуры. Яны абавязаныя гэтым займацца, – распавядае Хвір.

**Настасся УТКІНА.**

*Матэрыял створаны ў рамках сумеснай ініцыятывы Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый, CityDog.by, vitebsk4.me, часопіса «Бінокль» і «РГ».*

# «Ушу многія дарма не ўспрымаюць усур'ёз»

МАЛАДЗЕЧНА

**«Рэгіянальная газета» пагутарыла з маладзечанскім рыбаком Мацвеем Мучынскім пра яго любімыя мясціны для рыбалкі, на што і як лепш за ўсё вудзіць.**


Фота забяспечанае Мацвеем МУЧЫНСКІМ.

Мацвей са сваёй здабычай – ён злавіў сазана.

Мучынскі – адміністратар суполкі ў сацыяльнай сетцы «УКантакце» пра рыбалку.

### Толькі досвед і практыка

Мацвей дзеліцца, што рыбакі заўсёды кажуць: «Клявала ўчора і заўтра». Такі выраз з'явіўся з-за таго, што кожны від рыбы капрызны. Толькі досвед і практыка дапамогуць разабрацца ў рыбалцы і прыехаць на месца лоўлі ў патрэбны дзень і час.

### Любімыя вадаёмы

Любімая мясціна Мучынскага для лоўлі – Палачанскія разлівы. Вадаём стары, на ім рыбачыў яшчэ дзед Мацвея. Ён аднасіцца да балоцістай мясцовасці, таму без ботаў і рыштунку лепш не ехаць. Асноўныя віды рыб, якія можна злавіць: карась, лінь, акунь, шчупак, краснапёрка, плотка. Мацвей кажа, што едзе туды па мірную рыбу.

– Лаўлю на разлівах карася ды ліня. Выкарыстоўваю донныя снасці. У народзе іх называюць болды, ці закідухі. Прынада самая класічная – бяру гнаявога чарвяка з пенапластам. А прыкормліваю просам, аўсянкай, кукурузай і печывам.

Мацвей тлумачыць, што далей усё залежыць толькі ад рыбакоў, надвор'я, часу лоўлі і поспеху.

Рака Уша Маладзечанскага раёна – адно з любімых месцаў лоўлі ў Мацвея. Рыбак кажа, што многія раку не ўспрымаюць усур'ёз. Аднак, калі ведаеш мясціны, сезон і час лоўлі, з яе можна дастаць добрую рыбу.

– Рака ўвесь час у руху, таму тут ужо не пасядзіш. Трэба пастаянна рухацца і шукаць рыбу. З гэтай нагоды раю рыбачыць улегцы: вудзільна, вядро, часам патрабуецца падхват. Можна вудзіць на дамашняга і гнаявога чарвяка, дзядоўнік.

Асноўныя віды рыб на Ушы: плотка, акунь, пячкур, шчупак. Але Мацвей тлумачыць, што ў гэты спіс уваходзіць уся астатняя вядомая рыба. Дадзеная рака ўпадае ў многія іншыя вадаёмы, таму ніколі не ведаеш, што табе трапіцца менавіта сёння.

– Набярыцеся цярпення, і менавіта вам пашанцуе дастаць з дна ракі трафейную плотку на кілаграм!

**Настасся УТКІНА.**

Калі вы хацелі б расказаць пра свае рыбныя, ягадныя або грыбныя месцы, пішыце нам на адрас regionnews@rh.by.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 25.07 | 31.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0282 | **2.0348** |
| Еўра | 2.2585 | **2.2668** |
| Злоты, 10 | 5.3192 | **5.2855** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2129 | **3.2120** |
| Грыўня, 100 | 7.9594 | **8.1166** |

| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 24.07 | 31.07 |
|---|---|---|
| Еўра | 2.2500/2.2650 | **2.2600/2.2800** |
| Долар ЗША | 2.0100/2.0300 | **2.0300/2.0400** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 24.07 | 31.07 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,40** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **7,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,30 | **4,90** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | – | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,30 | **1,30** |
| Агуркі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Кабачок, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,99 | **0,90** |
| Морква, 1 кг | 1,50 | **1,20** |
| Лісічкі, 500 мл | 2,00 | **2,50** |
| Памідоры, 1 кг | 2,50 | **1,50** |
| Перац, 1 кг | 4,95 | **3,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,80 | **2,95** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **4,90** |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Слівы, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Чарніцы, 500 мл | 2,50 | **2,00** |
| Чарэшня, 1 кг | 4,90 | **6,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | **1,80** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Рэйтынг раёнаў па зарплатах

Як ацанілі рабочую сілу ў раёнах нашага рэгіёна ў першым паўгоддзі 2019 года. Звесткі падаў Нацыянальны статыстычны камітэт. Параўнаем намінальную налічаную сярэднямесячную зарплату ў рублях.

**Астравецкі раён** – 1034,1.

**Маладзечанскі раён** – 866,5.

**Смаргонскі раён** – 845,9.

**Ашмянскі раён** – 776,2.

**Мядзельскі раён** – 765,3.

**Валожынскі раён** – 761,5.

**Вілейскі раён – 761,2.**

## У Беларусі часцей карыстаюцца карткамі

Доля безнаяўных аперацый па картках вырасла ў першым паўгоддзі да 53,9%.

Паводле звестак Нацбанка, агулам па банкаўскіх картках у першым паўгоддзі правялі больш за 870 мільёнаў аперацый на больш чым 33 мільярды рублёў.

Доля наяўных аперацый склала 46,1%.

**Паводле БелТА.**

## На пажары выратавалі мужчыну

МАЛАДЗЕЧНА

28 ліпеня ў 18:04 выратавальнікам паступіла паведамленне пра дым з акна кватэры па Вялікім Гасцінцы ў Маладзечне.

Супрацоўнікі МНС прыбылі да месца выкліку і ўстанавілі, што дым ідзе з кватэры на першым паверсе.

З яе выратавалі мужчыну і перадалі яго брыгадзе «хуткай дапамогі». На момант пажару ён знаходзіўся ў жылым пакоі ў несвядомым стане. Мужчына шпіталізаваны ў Маладзечанскую ЦРБ №1.

Эвакуацыя жыхароў не спатрэбілася.

У выніку пажару маёмасць у кватэры не пашкоджаная.

Прычына пажару высвятляецца. Разглядаецца версія ўзнікнення пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі газавых агрэгатаў і прылад (пакінутая без нагляду ежа на пліце).

**Паводле minobl.mchs.gov.by.**

## Град знёс агароды ў Будславе

МЯДЗЕЛ

Град з курынае яйка выпаў у Мядзельскім раёне днём 25 ліпеня.

Пра наступствы для жыхароў «РГ» расказаў мясцовы жыхар **Пётр:**

– Зіма прыйшла ў Будслаў пасярод лета.

**Град памерам з яйка! Так намяло, што ледзь дом адчынілі. У агародзе ўсё пабіла, адны дудкі засталіся, лісце з дрэў пазрывала.**

Цяпліцы вунь як пабіла, шкло ў людзей паразбівала. Нічога ў агародзе не засталася, во якая бяда!

Непагода прайшла па некалькіх населеных пунктах Мядзельшчыны.

**Аддзел інфармацыі.**

## Экскаватар адкапаў рэактыўны снарад часоў Другой сусветнай вайны

Выбухованебяспечны снарад часоў Другой сусветнай вайны знойдзены ў Маладзечанскім рэгіёне.

У міліцыю паступіў званок ад рабочых раённага прадпрыемства ААТ «Перасоўная механізаваная калона №32». Работнікі праводзілі земляныя работы па чыстцы каналізацыйнай сістэмы. Яны паведамілі, што ў вёсцы Мароські экскаватарам адкапалі прадмет, падобны на бомбу. На месца неадкладна выехалі супрацоўнікі РАУС і прадстаўнік ваеннага камісарыята.

Месца знаходкі міліцыянеры ачапілі. Сапёрна-піратэхнічная група вайсковай часці 3310 устанавіла, што гэта быў 210-міліметровы рэактыўны снарад з выбухоўнікам. Па словах мясцовых жыхароў, у гэтай мясцовасці прайшла не адна ваенная бітва.

Спецыялісты агледзелі прылеглую зону, іншых выбуханебяспечных прадметаў не выявілі. Снарад транспартавалі за межы вёскі і знішчылі ў кар'еры.

Міліцыя нагадвае, што пры выяўленні артэфактаў **катэгарычна забараняецца прадпрымаць якія-небудзь дзеянні з імі.** Неабходна неадкладна звярнуцца ў міліцыю па тэлефоне 102. Менавіта такія простыя меры бяспекі дапамогуць захаваць жыццё і прадухіліць няшчасныя выпадак.

**Паводле minobl.mvd.gov.by.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Жыхара Вілейкі шукаюць ад 19 ліпеня

Вілейскім РАУС устанаўліваецца месцазнаходжанне прапаўшага без вестак **Куліцкага Аляксандра Анатольевіча**, 11.07.1976 г.н., ураджэнца і жыхара Вілейкі, які 19 ліпеня пайшоў з дому і да цяперашняга часу невядома, дзе ён.



Прыкметы: на выгляд 45 гадоў, рост 175-180 см, хударлявага целаскладу, валасы прамыя, цёмна-русыя, коратка стрыжаныя, вочы шэрыя.

Быў апрануты: камуфляжная куртка, байка белага колеру з капюшонам, джынсы чорнага колеру, красоўкі чорнага колеру.

Просім грамадзян, якім што-небудзь вядома пра месцазнаходжанне гэтага чалавека, паведаміць у Вілейскі РАУС па тэлефонах: (801771) 5-26-02, (8029) 380-82-28 ці ў бліжэйшы орган унутраных спраў па тэлефоне 102.

**Паводле minobl.mvd.gov.by.**



Фота з агляду месца злачынства.

Фота minobl.mvd.gov.by.

# П'яны бацька ўдарыў сына металічным шуфлікам. Хлопца шпіталізавалі

МАЛАДЗЕЧНА

**У Маладзечанскі РАУС паступіла паведамленне ад фельчара «хуткай дапамогі». Ён распавёў, што з ранай на галаве ў бальніцу даставілі 14-гадовага школьніка.**

У абставінах сталі разбірацца праваахоўнікі.

### Металічным шуфлікам па галаве

Аказалася, п'яны бацька вырашыў правесці з сынам выхаваўчую гутарку. Ён выкінуў дзіцячыя красоўкі на вуліцу. На лаянку прыбегла маці, якая заступілася за сына, маўляў, калі выхоўваць, то ў цвярозым стане.

За такую лінію абароны і жанчына ледзь не атрымала ўдар. Маці абараніла дзіця, адштурхнуўшы ў бок бацьку. Кропку ў сварцы паставіў металічны шуфлік, які стаяў у калідоры. Бацька дагнаў сына каля брамкі і ўдарыў па галаве шуфлікам.

Убачыўшы скрываўленае дзіця, маці аказала першую дапамогу і выклікала медыкаў, але ў міліцыю пра інцыдэнт не паведамляла. Хлопчыка прывезлі ў дзіцячую бальніцу. Згодна з медыцынскім заключэннем, школьніку нанеслі лёгкія цялесныя пашкоджанні.

### Могуць зноў атрымаць сацыяльна небяспечнае становішча

За тры гады гэта першае паведамленне ў міліцыю пра скандал у сям'і з гэтай вёскі Маладзечанскага раёна. Раней сям'я была ў спісе ў сацыяльна небяспечным становішчы. Але прафілактычная работа дала вынік – бацькі закадзіраваліся, атмасфера наладзілася.

Цяпер сям'я зноў рызыкуе трапіць у катэгорыю сацыяльна небяспечных. Як лічаць праваахоўнікі, патрабуе пастаяннага кантролю. І не толькі з боку міліцыі – у доме бардак і антысанітарыя.

У дзеяннях бацькі праваахоўнікі бачаць прыкметы злачынства, прадугледжанага артыкулам «Прычыненне лёгкага цялеснага пашкоджання». Мера стрымання ў дачыненні да мужчыны не абіралася.

### Сямейны гвалт

У біяграфіі 42-гадовага бацькі сямейства судзімасцяў не было, але адміністрацыйных пратаколаў дастаткова. Яго неаднаразова прыцягвалі да адказнасці за правапарушэнні, калі быў нецвярозы. Літаральна два дні да здарэння мужчына быў п'яны на мехдвары ў вёсцы Пятроўшчына, дзе яго злавілі супрацоўнікі міліцыі на працоўным месцы. У гаспадарцы працуе памочнікам камбайнера.

На ўліку ў Маладзечанскім РАУС стаіць больш за 140 чалавек, абвінавачаных у сямейным гвалце.

Сямейных дэбашыраў па месцы жыхарства правяраюць участковыя інспектары міліцыі, а супрацоўнікі Маладзечанскага аддзела Дэпартамента аховы возьмуць на кантроль грамадзян, каму выносілі ахоўныя прадпісанні. На дадзены момант такіх, каму забаронена з'яўляцца дома, 27 чалавек.

**Паводле minobl.mvd.gov.by.**

## Размахваў пісталетам і пагражаў. У Смаргоні затрымалі ўзброенага мужчыну

**У Смаргоні мужчына выпіў і стаў неадэкватна сябе паводзіць на вуліцы.**

29 ліпеня а палове дзясятай вечара ён прыйшоў на стаянку таксі па вуліцы Гагарына і зладзіў перад кіроўцамі, а таксама мінакамі своеасаблівы перфоманс.

Ён дастаў са штаноў прадмет, падобны на пісталет, і сказаў, што зараз пачне страляць. Людзі, якія знаходзіліся на стаянцы, выступленне не ацанілі і, хаваючыся за машынамі, паведамілі аб тым, што адбываецца, у міліцыю.

На месца інцыдэнту выбыў нарад міліцыі і аператыўна затрымаў зламысніка, які, як высветлілася, размахваў не агнястрэльнай зброяй, а пнеўматычным пісталетам.

У дачыненні да падазронага распачалі крымінальную справу па артыкуле «Хуліганства».

**Паводле grodno.mvd.gov.by.**

# «Старажытная Літва не была дзікім краем». Як прайшлі раскопкі ў Крэве

СМАРГОНЬ

**Ад 14 да 28 ліпеня на крэўскім замчышчы прайшла археалагічная экспедыцыя пад кіраўніцтвам гісторыка Алега Дзярновіча. «Рэгіянальная газета» наведала раскопкі і даведалася пра ўсё, што адбылося за два тыдні ў Крэве.**



Валанцёры працуюць на раскопе.



Адна са знаходак: нож, які датуецца 12 стагоддзем.



Алег Дзярновіч.



Камяні, якія знайшлі на вале. Магчыма, гэта падмурак сцяны гарадзішча.

Дзярновіч пачаў экскурсію з каменя на падыходзе да крэўскага замчышча, дзе адбываюцца раскопкі. На камені выбіты хрысціянскі сімвал «Крыж Галгофы» – крыж, усталяваны на пагорку Галгофа, на якім быў укрыжаваны Ісус. Гэта хрысціянская сімволіка з'явілася на камені ўжо за часамі хрысціянства і мусіла пераняць на сябе шанаванне валуна мясцовымі язычнікамі.

Валанцёраў за працай у апошнія дні раскопак застаецца няшмат – каля 20 чалавек. А за ўвесь час на археалагічных работах было больш за 50.

Гэта шосты сезон раскопак у Крэве. Кіраўнік іх распавядае, што раней капалі гарадзішча, а цяпер засяродзіліся на селішчы вакол яго. У планах выйсці на могільнік.

### Ад галандцаў да беларусаў з Каліфорніі

У раскопках удзельнічаюць розныя людзі. Усе яны валанцёры і даведаліся пра раскопкі з сацыяльных сетак або ад знаёмых.

Асістэнт кіраўніка раскопак **Андрэй Шулаеў** расказвае, што на раскоп прыязджалі з Польшчы і Нідэрландаў, якім цікава пагрузіцца ў беларускую гісторыю і пазнаць яе крыху больш. Аднак большасць валанцёраў – з Беларусі.

– У нас працуе хлопец, які не першы год з намі на раскопках. Сам ён жыве ў ЗША, дзесьці ў Каліфорніі. Далі яму з гэтай нагоды мянушку Каліфарніец. Насамрэч, ён беларус, – кажа Шулаеў.

На раскопкі прыязджаюць цэлымі сем'ямі. На пачатку крэўскай экспедыцыі была сям'я з Гомеля, а потым працавалі бацька разам з дзецьмі з Краснага, што ў Маладзечанскім раёне. Ён кажа, што навучаўся па падручніку гісторыі з «Пагоняй» і не разумее, як можна не даследаваць беларускую гісторыю.

### Днём – праца, вечарам – імпрэзы

У археалагічнай экспедыцыі ёсць строгі распарадак: да 16 – праца, а потым валанцёры бавяць час на розных мерапрыемствах у летніку. Кожны дзень гэтыя імпрэзы былі новыя: ад спеваў каля вогнішча і практыкумаў з керамістам да лекцый пра гісторыю Крэва і рыцарскіх баёў.

– Я сам шукаю выканаўцаў у летнік. Практычна ўсе пагаджаюцца, усім цікава – валанцёрам і тым, хто да нас прыязджае, – кажа Дзярновіч.

За два тыдні для валанцёраў выступілі музычныя гурты «Разбітае сэрца пацана», «Морквацвет», таксама спявалі **Аляксандр Памідораў**, **Алесь Чумакоў** і іншыя. Прайшлі лекцыі: **Алена Любая** распавядала пра крэўскіх татараў, а **Наталля Сліж** расказвала пра сям'ю і каханне ў часы ВКЛ.

### Бранзалеты, будаўнічая ахвяра і магчымы падмурак

Археалагічныя пласты датуюцца 10-13 стагоддзямі. Стагоддзі вызначаны па слядах пажараў, якія знайшлі падчас экспедыцыі. Пад адной з печак знайшлі будаўнічую ахвяру: пад ачагом быў разбіты гаршчэчак з косткамі птушкі.

Пасля гэтага часу ёсць пласты і 14 стагоддзя, але пасля жыццё ў гарадзішчы затухае. Прычына – сацыяльны, палітычны і адміністрацыйны цэнтр перамяшчаецца на Крэўскі замак.

На раскопках рэгулярна знаходзяць шкляныя бранзалеты. Знаходкі бранзалетаў на тэрыторыі Крэва ўжо не з'яўляюцца ўнікальнымі, але ў той жа час – добры фактар для датавання. Акрамя ўпрыгожванняў для жанчын, знайшлі гузік і нож. Усе знаходкі датуюцца 12 стагоддзем.

Часам трапляюцца незвыклыя рэчы для рэгіёна. Напрыклад, фрагмент шклянкі з арабскай вяззю – там было прапісанае імя султана.

Падчас раскопак заклалі адзін шурф на вале. Там знайшлі камяні, якія могуць быць ці брукаванкай, ці падмуркам для сцен.

### Чаму раскопкі ў Крэве – гэта важна?

Крэва цікавіць Дзярновіча з-за таго, што гэта быў рэгіянальны цэнтр Літвы да Міндоўга.

Падчас археалагічнай экспедыцыі лічылі, што знойдуць у Крэве выключна балцкую культуру. Але знайшлі доказы таго, што на гарадзішчы жылі пераважна славяне.

– Па маёй канцэпцыі атрымліваецца, што старажытная Літва мела сваю раннюю цывілізацыю. Яна не была такім дзікім краем, як уяўляецца ў нашых стэрэатыпах і нашых падручніках. У рэгіёне былі раннія ўрбаністычныя паселішчы, кшталту Крэва, Гальшанскага гарадзішча і Свіра, – расказвае Дзярновіч.

Насельніцтва ранніх урбаністычных цэнтраў старажытнай Літвы дадзяржаўнага перыяду было бі-этнічным: і славянскім, і балцкім. А вось у гарадзішчах дамінавала славянскае насельніцтва.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара і Ігара ПАЛЫНСКАГА.**

# К вниманию абонентов «Энергосбыта»

## В связи с изменениями в постановлении Совета Министров Республики Беларусь от 30.12.2013 г. №1166 с 1 июля 2019 г. установлены следующие тарифы на электрическую и тепловую энергию для населения:

| | Тариф, рублей за 1 кВт·ч |
|---|---|
| **1. Электрическая энергия в жилых домах (квартирах), оборудованных в установленном порядке электрическими плитами, за исключением указанной в пунктах 2-4 настоящего приложения:** | |
| 1.1. одноставочный тариф | 0,1484 |
| 1.2. дифференцированный тариф по двум временным периодам: | |
| минимальных нагрузок (с 22.00 до 17.00) | 0,1039 |
| максимальных нагрузок (с 17.00 до 22.00) | 0,2968 |
| 1.3. дифференцированный тариф по трем временным периодам: | |
| минимальных нагрузок (с 23.00 до 6.00) | 0,0890 |
| максимальных нагрузок (с 17.00 до 23.00) | 0,2671 |
| остальное время суток | 0,1039 |
| **2. Электрическая энергия для нужд отопления и горячего водоснабжения с присоединенной (суммарной )мощностью электронагревательного оборудования более 5 кВт, за исключением указанной в пунктах 3 и 4 настоящего приложения:** | |
| дифференцированный тариф по двум временным периодам: | |
| минимальных нагрузок (с 23.00 до 6.00) | 0,1019 |
| остальное время суток | 0,1892 |
| **3. Электрическая энергия при условии ее использования в том числе на нужды отопления и горячего водоснабжения в жилых домах (квартирах), не оборудованных в установленном порядке системами централизованного тепло- и газоснабжения и оборудованных в установленном порядке электрическими плитами, при отсутствии отдельного (дополнительного) прибора индивидуального учёта расхода электрической энергии для нужд отопления и горячего водоснабжения** | 0,0761 |
| **4. Электрическая энергия для нужд отопления и горячего водоснабжения в жилых домах (квартирах), не оборудованных в установленном порядке системами централизованного тепло- и газоснабжения, при наличии отдельного (дополнительного) прибора индивидуального учёта расхода электрической энергии для нужд отопления и горячего водоснабжения** | 0,0335 |
| **5. Электрическаяч энергия, за исключением указанной в пунктах 1-4 настоящего приложения:** | |
| 5.1 одноставочный тариф | 0,1746 |
| 5.2 дифференцированный тариф по двум временным периодам: | |
| минимальных нагрузок (с 22.00 до 17.00) | 0,1222 |
| максимальных нагрузок (с 17.00 до 22.00) | 0,3492 |
| 5.3. дифференцированный тариф по трем временным периодам: | |
| минимальных нагрузок (с 23.00 до 6.00) | 0,1048 |
| максимальных нагрузок (с 17.00 до 23.00) | 0,3143 |
| остальное время суток | 0,1222 |

Обращаем внимание, что для применения тарифа, указанного в п.3, необходимо соблюдение в совокупности следующих условий:

• жилой дом (квартира) не оборудован в установленном порядке системами централизованного теплоснабжения (отопления и (или) горячего водоснабжения) и газоснабжения;

• жилой дом (квартира) оборудован в установленном порядке электрическими плитами;

• жилое помещение (квартира) в многоквартирном, блокированном, одноквартирном жилом доме, оборудованное в установленном порядке стационарно установленными приемниками электрической энергии (электрическими котлами, электрическими водонагревательными установками, электрическими конвекторами и др.) для нужд отопления и горячего водоснабжения жилого помещения (квартиры), подключение которых к электрической сети производится без использования штепсельных соединений;

Для применения тарифа, указанного в п.4, необходимо соблюдение в совокупности следующих условий:

• жилой дом (многоквартирный, блокированный, одноквартирный) не оборудован в установленном порядке системами централизованного теплоснабжения (отопления и (или) горячего водоснабжения) и газоснабжения;

• жилое помещение (квартира) в многоквартирном, блокированном, одноквартирном жилом доме, оборудованное в установленном порядке стационарно установленными приемниками электрической энергии для нужд отопления и горячего водоснабжения жилого помещения (квартиры): электрическими котлами, электрическими водонагревательными установками, электрическими конвекторами и др. и отдельным (дополнительным) прибором индивидуального учёта расхода электрической энергии, к которому подключены данные приемники электрической энергии без использования штепсельных соединений.

УНП 100071593

РАКИ
ЛОВ ШИРОКОПАЛОГО РАКА ЗАПРЕЩЕН
ВЫЛОВЛЕННЫЙ РАК ДОЛЖЕН БЫТЬ БОЛЕЕ 10,5 СМ.
УЗКОПАЛЫЙ
ШИРОКОПАЛЫЙ

Памятка для ракаловаў.

# Якіх ракаў можна лавіць

**Сярод вядомых у свеце каля 500 відаў ракаў вадаёмы Беларусі насяляюць тры віды – шыракапалы, рак даўгапалы (вузкапалы) і інвазіўны від – амерыканскі паласаты рак.**

Шыракапалы рак ад 1981 года ўключаны ў Чырвоную кнігу Беларусі, таму лавіць яго забаронена.

Вузкапалы рак стаў аб'ектам прамысловага і аматарскага рыбалоўства.

**У адрозненне ад чырванакніжнага ён менш патрабавальны да ўмоў, лепш выкарыстоўвае кармавую базу, мае больш высокія тэмпы росту, вялікую пладавітасць.**

Лавіць яго можна, выконваючы патрабаванні, устаноўленыя Правіламі здабычы, нарыхтоўкі і (або) закупкі дзікіх жывёл, якія не адносяцца да аб'ектаў палявання і рыбалоўства.

Тэрміны забароны на вылаў вузкапалага рака супадаюць з тэрмінамі асноўнай нераставай забароны на лоўлю рыбы. На тэрыторыі Міншчыны гэта ад 1 красавіка да 30 мая. Здабываць яйцаносных самак і самак з лічынкамі нельга цягам усяго года.

## Чым лавіць ракаў

У асабістых мэтах грамадзянам можна лавіць ракаў з дапамогай ракаловак, на аднаго чалавека не больш за тры. Пакідаць іх без нагляду нельга. Можна лавіць ракаў рукамі, але толькі ў светлы час сутак. Нельга карыстацца асвятляльнымі прыборамі і плыўсродкамі.

**За суткі аднаму рыбалову можна вылавіць не больш за два кілаграмы ракаў.**

Ракалоўка ўяўляе сабой сеткаваты квадрат або круг з дыяганаллю або дыяметрам не больш за 100 сантыметраў з замацаванай у цэнтры прынадай – пад'ёмнікам адкрытага тыпу. Або пастку даўжынёй не больш за 100 сантыметраў з адным ці некалькімі, не больш за пяць, уваходамі з дыяметрам уваходнай адтуліны не больш за 70 сантыметраў, закрытага тыпу.

**Вылаўлены рак павінны быць больш за 10,5 сантыметра.**

## Адкуль з'явіўся амерыканскі рак

Каля 20 гадоў таму ў некаторых прытоках Нёмана на захадзе Гродзенскай вобласці ўпершыню заўважылі інвазіўны від – амерыканскага паласатага рака.

**Асноўная небяспека яго распаўсюджвання ў тым, што ён пераносчык ракавай чумы, пры гэтым застаецца ўстойлівым да гэтага небяспечнага захворвання.**

Амерыканскі паласаты рак устойлівы і да дэфіцыту кіслароду, і да забруджвання вадаёмаў. Ад адрозніваецца высокімі тэмпамі росту і кароткім жыццёвым цыклам.

**На амерыканскага паласатага рака няма прамысловай меры, аднак, дасягаючы даўжыні 5-7 сантыметраў, ён мае нізкую харчовую каштоўнасць.**

## Як адрозніць ракаў

Найбольш відавочныя і простыя знешнія адрозненні трох пералічаных відаў ракаў:

– у шыракапалага рака гладкі без шыпоў панцыр і толькі па краях невялікія зярністыя бугаркі, шырокія клюшні з добра развітымі асновамі, шырокі плоскі рострум, край рострума без зубцоў;

**– у вузкапалага рака пакрыты шыпамі і бугаркамі панцыр, доўгія вузкія клюшні, доўгі рострум, паралельныя краю рострума вострыя шыпы;**

– у амерыканскага паласатага рака светлыя чырвона-карычневыя палосы на брушной частцы цела.

**Васіль ПАЎЛАЎ,**
**старшы дзяржінспектар Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага асяроддзя.**
**Ілюстрацыя забяспечаная аўтарам.**

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Вупі Голдберг



Фота kickstarter.com.

**Амерыканская актрыса тэатра і кіно, прадзюсар, сцэнарыст, тэлевядучая. Адна з самых яркіх галівудскіх зорак 1980-90-х гадоў.**

Адна з нешматлікіх знакамітасцяў, удастоеная чатырох галоўных амерыканскіх прэстыжных узнагарод: «Оскар», «Грэмі», «Эмі» і «Тоні». У яе скарбонцы ўзнагарод ёсць таксама два «Залатыя глобусы», «БАФТА» і зорка на Алеі славы.

## Вупі Голдберг – гэта несапраўднае імя

Сапраўднае імя зоркі – Кэрын Элайн Джонсан. Мянушку Вупі (ад англ. whoopee cushion – «падушка-пярдушка»), якую яна пасля зрабіла сваім акцёрскім псеўданімам, Кэрын атрымала ў дзяцінстве. Па прапанове маці Кэрын узяла сабе псеўданім Голдберг: прозвішча Джонсан «недастаткова яўрэйскае, каб зрабіць яе зоркай».

## Наркотыкі

У канцы 1960-х гадоў Кэрын далучылася да руху хіпі. Яна пайшла з дому, каб жыць у камуне, дзе прынадзілася да марыхуаны, а пазней – і да больш цяжкіх наркотыкаў. Яна даведалася, што цяжарная, калі ёй было 14 гадоў.

Доўгі час нідзе не працавала, існавала на дапамогу па беспрацоўі. Яна не раз спрабавала пазбавіцца ад наркатычнай залежнасці, але ўсё было беспаспяхова, пакуль не сустрэлася ў пачатку 1970-х з Элвінам Марцінам, актывістам арганізацыі «Супраць наркотыкаў».

**Элвін пераканаў яе ў неабходнасці змяніць сваё жыццё, дапамог кінуць наркотыкі. Неўзабаве яны пажаніліся, праз год у Кэрын нарадзілася дачка Аляксандра.**

## Пачынала кар'еру ў тэатры

З васьмі гадоў пачала выступаць у эксперыментальным дзіцячым тэатры Элен Рубенстайн, дзе набыла першы досвед выступлення на сцэне і адзіныя ў сваім жыцці ўрокі акцёрскага майстэрства. Педагогі высока ацэньвалі талент дзяўчынкі.

У 1974 годзе праз адно з тэатральных агенцтваў ёй удалося знайсці акцёрскую вакансію ў новым тэатры горада Сан-Дыега. Сваю тэатральную кар'еру яна пачала ўжо пад псеўданімам Вупі Голдберг. Адной з першых яе работ стала галоўная роля ў п'есе «Матуля Кураж». У 1983 годзе рэалізавала праект монаспектакля. Ён атрымаў назву «Шоу прывідаў» і меў вялікі поспех. З ім Вупі гастралявала не толькі па Амерыцы, але таксама ў Канадзе і Еўропе. У 1984 годзе выступіла са сваім спектаклем на Брадвеі. У наступныя гады праца ў кіно практычна не пакінула ёй часу для тэатра.

## Культавыя ролі ў кіно

У 1985 годзе сыграла галоўную ролю ў фільме «Кветкі ліловых палёў», які назвалі афра-амерыканскім аналагам «Знесеных ветрам». Яркі кінадэбют Вупі Голдберг быў адзначаны ўзнагародай «Залаты глобус» і намінацыяй на «Оскар».

**Вупі Голдберг пачала кар'еру з драматычнай ролі, але працягвала іграць у кіно ў забаўляльных жанрах: камедыях, дэтэктывах, серыялах, фантастыцы.**

Сярод найбольш вядомых фільмаў з яе ўдзелам – «Джэк-пасканунчык», «Зладзейка», «Фатальная красуня», «Дзейнічай, сястра», «Прывід», «Рыцар Камелот». За ёй замацавалася амплуа абаяльнага і эксцэнтрычнага персанажа, незалежнай жанчыны, якая плюе на любыя ўмоўнасці, чаму ў немалой ступені спрыяе яе ўласны паўсядзённы вобраз.

У 1991 годзе Вупі Голдберг атрымала ўзнагароды «Оскар», «Залаты глобус» і «БАФТА» за ролю другога плана – экстрасэнса Оды Мэй Браўн у фільме «Прывід».

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 5 АВГУСТА

**7.00, 15.55, 19.05, 21.05, 0.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.30** Х/ф **«ПРОЩАЙ КРИСТОФЕР РОБИНС».**
**9.20** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ».**
**11.00** Д/с «Дорога в школу».
**11.25, 16.00** «Юморинка».
**11.30** Х/ф **«ГОСУДАРЬ».**
**13.35, 20.05** Т/с **«РАНЧО».**
**14.30** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**16.30** Х/ф **«ПРАВДИВАЯ ЛОЖЬ».**
**19.10** «Реальный бизнес».
**19.15** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПИАНИСТ».**
**23.30** Т/с **«СОРВИГОЛОВА».**

### ВТОРНИК, 6 АВГУСТА

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.25** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**9.30, 19.05** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**10.30, 16.00** «Юморинка».
**10.35** «Встреча Лувра с запретным городом».
**11.20** Х/ф **«ПИАНИСТ».**
**13.45, 20.00** Т/с **«РАНЧО».**
**14.30** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**16.30** Х/ф **«ПЕС БАРБОС И НЕОБЫЧАЙНЫЙ КРОСС». «САМОГОНЩИКИ».**
**17.45** «Законы привлекательности».
**19.00** «Реальный бизнес».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«САХАРА».**
**23.10** Т/с **«СОРВИГОЛОВА».**

### СРЕДА, 7 АВГУСТА

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.35** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.30** Х/ф **«ДЬЯВОЛ НОСИТ «PRADA».**
**9.20, 19.10** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**10.10** Мультфильмы «Бобик в гостях у Барбоса».
**10.20, 16.00** «Юморинка».
**10.25** «Законы привлекательности».
**11.30** Х/ф **«БАРЫШНЯ-КРЕСТЬЯНКА».**
**13.30, 20.05** Т/с **«РАНЧО».**
**14.25** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**16.30** «Миллион вопросов о природе».
**16.45** Х/ф **«ТИХООКЕАНСКИЙ РУБЕЖ».**
**19.05** «Реальный бизнес».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ВОЙНА МИРОВ».**
**23.40** Т/с **«СОРВИГОЛОВА».**

### ЧЕТВЕРГ, 8 АВГУСТА

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.30** Х/ф **«ВОСЕМЬ ПОДРУГ ОУШЕНА».**
**9.15, 19.10** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**10.05** «Миллион вопросов о природе».
**10.25** «Юморинка».
**10.30** Д/ф «НЕВИДИМЫЕ ГОРОДА ИТАЛИИ. ФЛОРЕНЦИЯ».
**11.20** Х/ф **«ВОЙНА МИРОВ».**
**13.40, 20.00** Т/с **«РАНЧО».**
**14.25** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**16.30** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-МУРАВЕЙ».**
**18.30** «Фешн is my профешн».
**18.40** «Готовь как шеф».
**19.05** «Реальный бизнес».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ЭСКАДРИЛЬЯ ЛАФАЙЕТ».**
**23.20** Т/с **«СОРВИГОЛОВА».**

### ПЯТНИЦА, 9 АВГУСТА

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 2.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.30** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ».**
**9.35, 19.10** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**10.30** «Юморинка».
**10.40** «Готовь как шеф».
**11.00** Х/ф **«ТЕМНЫЙ РЫЦАРЬ».**
**13.40, 20.05** Т/с **«РАНЧО».**
**14.30** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**16.30** «Путь АБИИ».
**17.15** Х/ф **«СТРЕКОЗА».**
**19.05** «Реальный бизнес».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал-95».
**22.40** «Герои комиксов на экране» Фантастический боевик «Тихоокеанский рубеж».
**0.30** Т/с **«ШЕРЛОК».**

### СУББОТА, 10 АВГУСТА

**7.00, 14.30, 19.00, 21.15, 0.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «История игрушек-3».
**8.50** Х/ф **«СЕРДЦЕЕДКИ».**
**10.50** «Утрямдия».
**11.00** Х/ф **«ТИХООКЕАНСКИЙ РУБЕЖ».**
**13.00** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**14.35** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Собачий остров».
**16.15** «Друзья дедушки Марко».
**16.35** Х/ф **«ПОКРОВСКИЕ ВОРОТА».**
**19.05** «Реальный бизнес».
**19.10** «По мотивам реальных событий». «127 часов».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ЖЕСТОКИЕ МУЖСКИЕ ИГРЫ». «СУБМАРИНА».**
**23.20** Т/с **«ШЕРЛОК».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 11 АВГУСТА

**7.00, 15.40, 18.50, 21.05, 0.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Короткое замыкание».
**8.45** «Путь АБИИ».
**9.15** «Утрямдия».
**9.20** «Готовь как шеф».
**10.00** «Законы привлекательности».
**10.40** «Вечерний квартал-95».
**12.10** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-МУРАВЕЙ».**
**14.10** Т/с **«ОСТАТЬСЯ В ЖИВЫХ».**
**15.45** «Смотрим всей семьей». Док. фильм «Как стать взрослым».
**16.50** «Друзья дедушки Марко».
**17.05** Т/с **«КАСЛ».**
**17.50** Программа о моде и не только…»BELFASHION.TV».
**18.55** «Реальный бизнес».
**19.00** Х/ф **«ВОДИТЕЛЬ ДЛЯ ВЕРЫ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЭКИПАЖ».**
**23.15** Т/с **«ШЕРЛОК».**



## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 5 АВГУСТА

**6.30** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**9.00** Х/ф **«ИЛЬЯ МУРОМЕЦ И СОЛОВЕЙ РАЗБОЙНИК».**
**10.30** Х/ф **«ВСЕ ПУТЕМ».**
**12.10, 14.40, 22.15** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ».**
**14.55** Новости БЖД.
**15.10** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**16.50** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**18.50, 21.50** Мнения и факты.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Профессиональный лицей.
**19.30** Мая Радзіма.
**19.40** Открытая тема: год малой Родины.
**20.15** Х/ф **«30 СВИДАНИЙ».**

### ВТОРНИК, 6 АВГУСТА

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.50** Мнения и факты.
**8.15** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**13.00** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРРО».**
**15.10** Х/ф **«МОЩЕННИКИ».**
**16.30** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**19.15** Безопасные каникулы от Сержа Загорелого.
**19.30** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ».**
**22.15** Мажорный лад.

### СРЕДА, 7 АВГУСТА

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**10.15** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**13.00** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**14.50** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**16.10** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**19.15** Берегиня.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 8 АВГУСТА

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«МАСКА ЗОРРО».**
**10.15** Х/ф **«ИЛЬЯ МУРОМЕЦ И СОЛОВЕЙ РАЗБОЙНИК».**
**13.00** Х/ф **«ВСЕ ПУТЕМ».**
**15.00** Пресс-центр: Пьянству бой.
**19.15** Танец жизни.
**19.30** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«НУ, ЗДРАВСТВУЙ, ОКСАНА СОКОЛОВА».**
**22.15** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 9 АВГУСТА

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**9.40** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**11.40** Х/ф **«ПРОСТИ, ХОЧУ НА ТЕБЕ ЖЕНИТЬСЯ».**
**13.45** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**15.35** Х/ф **«ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ».**
**16.55** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ 2. КОРИДОРЫ ВРЕМЕНИ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30, 21.00** Мнения и факты.
**20.30** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ».**
**22.30** Мажорный лад.

### СУББОТА, 10 АВГУСТА

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30** Будьте здоровы.
**13.00** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**14.45** Берегиня.
**16.15, 21.35** Новости БЖД.
**16.25, 22.30** Мажорный лад.
**19.30** 100 лет ИДН.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.25** Федерация профсоюзов Беларуси.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 11 АВГУСТА

**6.30** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**8.10** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**9.35** Х/ф **«УРОКИ ВЫЖИВАНИЯ».**
**10.50** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ 2. КОРИДОРЫ ВРЕМЕНИ».**
**13.20** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРРО».**
**14.45** Х/ф **«НЕАДЕКВАТНЫЕ ЛЮДИ».**
**16.10** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ».**
**18.00** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА».**
**20.00** Х/ф **«УБИЙСТВО НА ТРОИХ».**
**21.30** Х/ф **«РИМСКИЕ СВИДАНИЯ».**

# нядзеля, 11 жніўня

## Беларусь 1

**7.15** Х/ф **«КРИВОЕ ЗЕРКАЛО ДУШИ».**

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Т/с **«СЛЕД».**

**10.40** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**11.35** «Наши».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Т/с **«НЕРАСКРЫТЫЙ ТАЛАНТ 2».**

**14.25** «Твое место на кухне».

**15.15** «Твой город».

**15.30** «Вокруг планеты».

**16.20** «Женщины и спорт». Хроникально-документальный телефильм АТН.

**16.50** Х/ф **«ПРИГОВОР ИДЕАЛЬНОЙ ПАРЫ».**

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** «Главный эфир».

**22.10** Х/ф **«МАНЕКЕНЩИЦА».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«СТОМАТОЛОГ».**

**8.40, 19.55** «Телебарометр».

**8.45** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**9.35** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**10.25** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.

**11.20** Х/ф **«ДЖЕК РИЧЕР».**

**13.30** Х/ф **«БРОСОК КОБРЫ 2».**

**15.15** «Когда мы дома». Скетчком.

**16.15** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.50** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.30** «Обмен женами». Реалити-шоу.

**22.00** «Спортлото 5 из 36», КЕНО.

**22.05** «Рок за Бобров». Концерт.

**23.40** «Камень, ножницы, бумага».

**0.15** «Кто я?».

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.55, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Прыходзьце заўтра...». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Запяканка з бульбы.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Атрад асобага прызначэння». Мастацкі фільм [СТ].

**13.00** «Майстры і куміры». Харэограф, народны артыст Беларусі Юрый Траян.

**14.10** «Дзяўчына з гітарай». Мастацкі фільм [СТ].

**15.40** «Дзесяць фатаграфій». Рэнат Ібрагімаў.

**16.20** «Без права на памылку». Мастацкі фільм.

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Тайна запісной кніжкі». Мастацкі фільм.

**22.20** С.Пракоф'еў. «Рамэа і Джульета». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** «Ералаш».

**7.45** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** Х/ф **«СИНДРОМ НЕДОСКАЗАННОСТИ».**

**11.10** «Видели видео?».

**12.40** «Людмила Хитяева. «Я не могу быть слабой».

**13.40** Х/ф **«СТРЯПУХА».**

**15.00** «Точь-в-точь».

**16.20** «Точь-в-точь» Продолжение.

**18.20** «Эксклюзив» с Дмитрием Борисовым.

**20.00** «Контуры».

**21.05** Т/с **«НАУЧИ МЕНЯ ЖИТЬ».**

**23.05** ОНТ представляет: «Спортклуб»(16+).

**23.25** «КВН». Премьер-лига.

## СТВ

**6.00** «Эликсир молодости».

**7.40, 21.50** Документальный спецпроект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00, 13.40, 16.40, 20.35** Т/с **«БЕГЛЕЦ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**1.00** «Соль: группа «Ария».

## Мир

**6.00, 6.25, 7.45** Мультфильмы.

**6.15** «Миллион вопросов о природе».

**7.10** «Охота на работу».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.50** «Всемирные игры разума».

**9.25, 3.55** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15, 16.15** Т/с **«ЦВЕТОК ПАПОРОТНИКА».**

**2.25** Х/ф **«ТРАКТОРИСТЫ».**

**4.20** Т/с **«ДОМ ФАНТОМ В ПРИДАНОЕ».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55, 23.10** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.25** «Готовим с Алексеем Зиминым».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.40** «Устами младенца».

**9.15** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«МЕНТОВСКИЕ ВОЙНЫ».**

**16.20** «Следствие вели...».

**19.40** Х/ф **«РЕЙДЕР».**

**21.25** Х/ф **«ОДИН ДЕНЬ ЛЕТА».**

**23.40** «Таинственная Россия».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«КЛУБ ОБМАНУТЫХ ЖЕН».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.20** Праздник Курбан-Байрам. Трансляция из Московской Соборной мечети.

**12.10** «Сто к одному».

**13.10** «Утренняя почта».

**13.55** ПРЕМЬЕРА. «Дорожная карта». Фильм-расследование Аркадия Мамонтова.

**15.00, 21.45** Т/с **«РУССКАЯ НАСЛЕДНИЦА».**

**23.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 17.40** Морской бой. **8.40** Александр. **12.00** Эволюция. **13.50** Детсадовский полицейский. **15.55** Предчувствие. **20.10** Правила виноделов. **22.35** Васаби. **0.15** Немыслимое. **2.00** Видели ночь. **3.30** Маска Зорро.

### TV1000 ACTION

**7.15** Из Парижа с любовью. **9.15** Автобан. **11.25** Убить гонца. **13.30** Дуэль. **15.35** Нечто. **17.30** Большой куш. **19.25** Уцелевшая. **21.10** Чёрная дыра. **23.15** Проклятие 2. **1.05** Винчестер. Дом, который построили призраки. **2.50** Солдат Джейн. **5.10** Перестрелка.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Вий. **8.55** Любит не любит. **10.40** Карлик Нос. **12.15** Анкор, ещё анкор! **14.05** Непрощённый. **16.15** Карп отмороженный. **18.05** 28 панфиловцев. **20.20** День радио. **22.15** ЖARA. **0.05** Код апокалипсиса. **2.10** Первые. **4.05** Райские кущи.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.15, 11.15, 12.15** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 13.15** Х/ф **«МЕРЦАЮЩИЙ». 15.00** Х/ф **«НЕУЛОВИМЫЕ». 16.45** Х/ф **«НАЁМНИК». 19.00** Х/ф **«РОНИН». 21.30** Х/ф **«САБОТАЖ». 23.30** Х/ф **«ОДНАЖДЫ В АМЕРИКЕ». 4.00** Х/ф **«ФУРГОН СМЕРТИ». 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 18.00** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. НЕУЛОВИМАЯ МСТИТЕЛЬНИЦА». 10.30, 18.30** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. ПОХИЩЕННОЕ НАСЛЕДСТВО». 11.00, 19.00** Т/с **«ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ». 12.00, 13.00** Т/с **«ОЛЯ+ КОЛЯ». 14.00, 15.00** Т/с **«РАЗВОД И ДЕВИЧЬЯ ФАМИЛИЯ». 20.00, 21.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 22.00, 23.00** Т/с **«ПРИИСК». 2.00, 3.00** Т/с **«ПЕТЕРБУРГСКИЕ ТАЙНЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ». 6.00, 7.00** Т/с **«МОЙ ГЕНЕРАЛ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.30** Х/ф **«БЛЕФ». 2.25** Х/ф **«С 5 ДО 7. ВРЕМЯ ЛЮБОВНИКОВ». 4.00** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ! В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМИ». 5.50** Х/ф **«ТАКСИ 5». 7.45** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ЖИВЕТ ТРИ ГОДА». 9.45** Х/ф **«ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ ОХОТЫ». 11.40** Х/ф **«ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ РЫБАЛКИ». 13.40** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ». 15.40** Х/ф **«НИЧЕГО НЕ ВИЖУ, НИЧЕГО НЕ СЛЫШУ». 17.40** Х/ф **«ПРИВЕТ, БИЛЛ!». 19.30** Х/ф **«ЛЮБОВНОЕ БЕЗУМИЕ». 21.05** Х/ф **«СВИДАНИЕ ВСЛЕПУЮ». 22.55** Х/ф **«ЭТО ВСЕ ОНА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.35, 1.30, 2.25, 4.00, 4.50, 5.35, 6.25, 7.20, 8.15, 9.10, 10.00** Принцип Хабарова. **11.00, 12.25, 13.35, 14.35, 15.40, 16.45, 17.45, 18.45, 19.50, 20.50, 21.55, 23.00** Оттепель.

### ВТВ

**6.00, 6.55, 8.15, 9.15, 10.40, 12.15, 12.55, 13.55, 15.25, 17.35, 19.10, 20.45, 22.55, 23.40** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 2.55** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.20** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.50** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **10.10** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.45** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **11.15** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ 2». **12.20, 1.35** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00, 2.05** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **14.00** Т/с **«ПСИХОЛОГИНИ». 15.30** Х/ф **«ИНОПЛАНЕТНОЕ ВТОРЖЕНИЕ: БИТВА ЗА ЛОС-АНДЖЕЛЕС». 17.40** Х/ф **«ТОР: ЛЕГЕНДА ВИКИНГОВ». 19.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **20.50** Х/ф **«РАЙОН №9». 23.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **23.45** Т/с **«ЛОНДОНГРАД». 4.10** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **5.00** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.45** Легкая атлетика. Командный чемпионат Европы. Суперлига. **10.50** Пляжный волейбол. Чемпионат Европы. Женщины. Финал. **11.55** Пляжный волейбол. Чемпионат Европы. Мужчины. 1/2 финала. **12.55** Фактор силы. **13.30** Легкая атлетика. Командный чемпионат Европы. Первая лига. **17.35, 20.25** Спорт-микс. **17.45** Питстоп. **18.20** Спорт-центр. **20.35** Футбол. Беларусбанк- чемпионат Беларуси. Динамо-Минск – ФК Минск. В перерыве – Спорт-центр. **22.40** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **23.25** Борьба. Международный турнир на призы А.В.Медведя. Финалы.

### EUROSPORT

**0.05** Прыжки на лыжах с трамплина. Летний Гран-при. Куршевель. HS 132. **1.20, 4.00, 11.30, 16.30, 22.05** Лёгкая атлетика. Командный чемпионат Европы. Быдгощ. **2.30, 6.00** Снукер. International Championship. Китай. 1/2 финала. **7.55, 13.25, 20.05** Снукер. International Championship. Китай. Финал. **23.55** Олимпийские игры. Camps to Champs.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Трасса А2. **7.35, 10.20, 13.45, 16.20, 18.55, 23.45, 1.40, 3.10** Итоговые новости. **7.45** Народный тест драйв. **8.15, 2.35** Назад в СССР. **8.50** Сити тестер. **9.20, 0.45** Вторичка. **9.50** Это Родина твоя. **10.35** Советы юриста. **11.15** Под микроскопом. **11.45, 14.00** Испытание на прочность. **16.35, 19.10** Тест на «Драйве». **19.35, 22.30, 3.25** АВТОбиография. **20.30, 23.20, 4.10** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **20.55, 0.00** Школа внедорожного вождения. **21.15, 4.55** В поисках мотоприключений. **21.45, 5.25** Теория полного привода. **22.15** Авто: вторые руки. **0.15** Комплектация. **1.00** Вечер с Пикуленко. **1.55** Тайный покупатель. **2.10** Тест на «Драйве». **4.40** Легенды автопрома.

### EXPLORE

**6.05, 7.00, 7.50, 8.45** Речные чудовища. **9.35, 10.00, 10.25, 10.45** Путешествие по паркам. **11.10, 12.00, 12.50, 13.40, 14.30, 15.15** Выживание в лесу. **16.00, 16.45** Деревенский дом. **17.30, 17.55, 18.20** Гараж: Последний приют. **18.45, 19.35** Надсмотрщик. **20.20, 21.10** Переделка старья. **22.00, 22.50, 23.40, 0.30, 1.20** Австралийские золотоискатели. **2.10, 3.00** Поисковая команда в Австралии. **3.50, 4.35** Лесные люди. **5.25** Битва за карпов.

### HISTORY

**6.00, 6.25** Невероятные изобретения. **7.00, 7.50, 10.20** Тайны британских замков. **8.45, 9.30, 4.00, 4.45** Музейные тайны. **11.10, 12.10** Взрывная Земля. **13.05, 14.10** Вторая мировая в цвете. **15.10, 16.10, 17.10** Проект «Наци». Дьявольский замысел. **18.15, 19.10** Вторая мировая война: чего стоит империя. **20.10** Смертоносный интеллект. **21.05** Падение империи. **22.00** Остров Адольф. **23.00, 0.00** Тайная война. **1.00** Владыки Тихоокеанского побережья. **2.10, 3.05, 5.35** Запретная история.

### NATURE

**6.05, 7.05** Питомцы: дикие в душе. **8.05, 9.00** Удивительное семейство псовых. **9.55, 14.15, 20.00** Волшебная страна Оз. **10.55** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **11.45, 12.35, 13.25** Приключения китов с Найджелом Марвеном. **15.15, 16.05, 16.55** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **17.45, 18.35** Эпический Йеллоустоун. **19.30** Животные инстинкты с Крисом Хамфри. **21.00, 21.55, 22.50, 23.45** Галапагосы. **0.40** Загадка полярного сияния. **1.35, 2.30, 3.20** Суперветеринар. **4.10, 5.05** Тайная жизнь зоопарка.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **6.20, 11.20, 11.40** Игры разума. **6.45** Чудеса инженерии. **7.30** Сила племени. **8.20, 12.05, 4.50** Суперкар со свалки. **9.05, 9.45** Золото в холодной воде. **10.30, 10.55, 5.35** Код опасности. **12.50, 13.35** Авто-SOS. **14.20, 15.10** Дневники круизного лайнера. **16.00** Внутри невероятной механики. **16.45** Партизанская золотая лихорадка: Военные трофеи. **17.30** По их собственным словам. **18.15, 3.15** «Армстронг». **19.00, 22.05, 2.35** Осушить океан. **19.40, 20.30, 21.15** Опасные путешествия. **22.45** Служба безопасности аэропорта: Перу. **1.05, 1.50** Инстинкт выживания. **4.00** Неизвестная планета земля.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.30** Фишермания. **6.25, 23.00** Спиннинг сегодня. **6.55, 12.00, 18.00, 0.30** Экстремальная рыбалка с Робсоном Грином. **7.45, 12.45, 18.50** Рецепты старого Тифлиса. **8.00, 19.35** Рыбалка в Нижнем Прикамье. **8.30, 20.05** На охотничьей тропе с Сергеем Астаховым. **9.00, 15.35, 20.30, 3.15** Рыбалка сегодня XL. **9.25** Горная охота на корякского и чукотского снежного барана. **9.55, 21.30** Карпфишинг. **10.30, 22.00** Водоемы России. Рыбинское водохранилище. **11.00, 17.30, 1.30, 5.05** Беларусь: в поисках хорошего клева. **11.30, 19.05, 1.55, 5.35** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **13.00** Какая дичь! **13.15** Охота в Новом Свете. **13.45** Секреты «трудных» водоемов. **14.20** Профессиональная рыболовная лига 2018. **14.35, 2.25** Пофестивалим! **15.05** На рыбалку с охотой. **16.05, 3.45** Горная охота на охотского снежного барана. **16.35, 4.10** Стрелковый спорт. **16.50, 4.25** Охотничьи собаки. **17.15, 4.50** Кодекс охотника. **21.00** Оружие для ОХОТЫ. **23.30** Рыбалка в России. **0.00** Дед Мазай и зайцы. **0.15** Советы бывалых. **1.15** Природа мужской кухни с Сержем Марковичем. **2.50** Поймать лосося.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.10, 18.15, 22.20, 2.20** Дома на деревьях. **6.45, 10.50, 14.55, 19.05, 23.10, 3.00** Квас. **7.00, 11.05, 15.15, 19.20, 23.25, 3.15** Огород от-кутюр. **7.30, 11.35, 15.40, 19.50, 23.55, 3.45** Урожай на столе. **8.00, 12.10, 16.15, 20.20, 0.30, 4.10** Хозяин. **8.30, 12.35, 0.55** Сельсовет. **8.45, 12.50, 17.00, 21.05, 1.10, 4.50** Тихая моя родина. **9.20, 13.25, 17.30, 21.40, 1.40, 5.20** Полное лукошко. **9.35, 13.40, 17.45, 21.55, 1.50, 5.35** Фитоаптека. **16.45, 20.50, 4.40** Садовый доктор.

# Ляплёнка і драўляны будынак лебедзеўскага роду Посахаў

МАЛАДЗЕЧНА

*Працяг. Пачатак у №30.*

У канцы 19 – пачатку 20 стагоддзя рэдкія гаспадары мястэчка валодалі фруктовымі садамі. А сям'я Посахаў мела.

Прычын гэтаму некалькі. Па-першае, той час зямля была вялікай каштоўнасцю, з яе жылі і карміліся. Для сялян заняць частку надзела пад сад было вялікай раскошай. Па-другое, людзі не ведалі асноў садаводства.

Таму ў мясцовых жыхароў сады былі рэдкасцю, а яблыкі ўяўлялі сабой сапраўдныя прысмакі.

### Якім скарбам былі яблыкі

Часта ў сад Посахаў наведваліся па пачастункі няпрошаныя госці: днём – дзеці, а ноччу – дарослыя. Бывала і такое, што за ноч маглі абкалаціць увесь сад. Паколькі яблыкі каштавалі дорага, каб не кралі, летам у садзе ставілі будку з жэрдзя, накрытую саламяным дахам. Пільнавалі сад, седзячы ў ёй.

Калі вясной яблыні яшчэ цвілі, то былі невядомыя перспектывы на ўраджай. Але мясцовыя яўрэі куплялі будучыя яблыкі і да поўнай іх спеласці вартавалі самі. Восенню, сабраўшы ўраджай, прадавалі яблыкі на мясцовым рынку альбо везлі ў іншыя рэгіёны на продаж. Для яўрэяў гэта быў выгадны гандаль.

**Лебедзеўскія яблыкі адпраўлялі з чыгуначнай станцыі Пруды ў Варшаву, Лодзь і іншыя гарады Польшчы. Сёння ўсё змянілася.**

Мы купляем польскія яблыкі, а тады наадварот – палякі набывалі нашы.

Для захавання ўраджаю ад зладзеяў Посахі з боку поля ўзвялі двухметровую агароджу з дошак, а зверху нацягнулі калючы дрот.

Важную ролю ў павелічэнні садоў у Лебедзеве ў 20–30-я гады 20 стагоддзя адыграў Мацвей, бацька мастака **Рамана Семашкевіча**. Ён працаваў у той час садоўнікам у мясцовага пана Цывінскага. Менавіта ён перадаў досвед садоўніцтва многім мястэчковым жыхарам. З таго часу ў Лебедзеве, дзякуючы мясцоваму «агродніку» (польская), колькасць уладальнікаў садоў значна вырасла.

### Тут гасцяваў Янка Купала

Вяртаемся да Посахаў. Фёдар Посах меў пяць сыноў: **Пятра**, **Максіма**, **Аляксандра**, **Андрэя**. Імя пятага сына аўтару артыкула не ўдалося высветліць, адзіную дачку звалі **Марыя**. Старэйшы сын Андрэй Фёдаравіч (1885–1945) – вядомая асоба. У пачатку 20 стагоддзя быў настаўнікам Гарадзілаўскай пачатковай школы, пазней – дацэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Сябраваў з Янкам Купалам. У 1906–1907 гадах беларускі пясняр працаваў чорнарабочым на бровары ў Яхімоўшчыне. У той перыяд ён неаднойчы наведваў Лебедзева і гасціў у доме бацькоў Андрэя Фёдаравіча.

Старажылы прыгадваюць, як Янка Купала бываў у мястэчку. Ён пераходзіў раку Нявежа па мосце ля жывёльнага рынку, мясцовая назва рынку – Таргавіца. Летам на беразе ракі вакол моста мясцовыя жанчыны часта паласкалі бялізну.

Прыгожы, інтэлігентнага выгляду малады мужчына, як правіла, вітаўся з лебедзеўскімі сялянкамі і заводзіў кароткую размову аб іх жыцці.

Спачатку такія павадзіны невядомага чалавека не маглі не здзіўляць тутэйшых жыхароў. Тады яны не ведалі яго імя і прозвішча. Ім было вядома толькі, што бывае ў Посахаў і сябруе з Андрэем.

Сёння мы можам меркаваць, што будучы класік беларускай літаратуры ў час кароткіх гутарак з жыхарамі Лебедзева назапашваў інфармацыю, якую потым выкарыстоўваў у творчасці. Доказам гэтага з'яўляецца Купалаў верш «Як не выйдуць чарнасотнікі», надрукаваны ў газеце «Наша ніва» 28 жніўня 1908 года пад псеўданімам Левы. У яго аснову ляглі рэвалюцыйныя выступленні сялян мястэчка Лебедзева ў 1905–1907 гадах.

**Антон АПАНАСЕВІЧ**, Лебедзева.

*Заканчэнне будзе.*


Фота tiki-toki.com.
Янка Купала ў маладосці.

● КАЛЯНДАР

**2 ЖНІЎНЯ**
**1840.** Паводле ўказа расійскага імператара спыненае дзеянне Статута ВКЛ на тэрыторыі Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў.

**3 ЖНІЎНЯ**
**1940.** Літва далучаная да СССР.

**4 ЖНІЎНЯ**
**1945.** Заснаваныя філіі Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Вязынцы і Ляўках.
**1924.** Узброены савецкі атрад у ноч на 4 жніўня напаў на гарадскую турму ў Стоўбцах. Галоўнай мэтай нападу было вызваленне дзеячаў камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Польшчы. Наступствамі стала ўзмацненне абароны дзяржаўных межаў у Польскай рэспубліцы, а менавіта стварэнне Корпуса аховы пamежжа.

**5 ЖНІЎНЯ**
**1772.** Адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай паміж Аўстра-Венгрыяй, Прусіяй і Расіяй – падпісанне адпаведнага трактату дзяржавамі ў Санкт-Пецярбургу.

**6 ЖНІЎНЯ**
**1938.** Нарадзіўся **Ігар Лучанок**, беларускі кампазітар
**1965.** Нарадзіўся **Алесь Пушкін**, беларускі жывапісец-нонканфарміст, тэатральны мастак, перформер, арт-куратар, сябра Беларускага Саюза мастакоў. У партфоліа мастака і работы ў касцёле Панны Марыі ў Вішневе на Валожыншчыне, у касцёле архангела Міхаіла ў Міхалішках Астравецкага раёна.



**7 ЖНІЎНЯ**
**1932.** Нарадзіўся **Адам Мальдзіс**, вёска Расолы Астравецкага раёна. Беларускі літаратуразнаўца, крытык, публіцыст. Доктар філалагічных навук, прафесар.



**8 ЖНІЎНЯ**
**1655.** Захоп маскоўскім войскам сталіцы ВКЛ Вільні.

Падрыхтаваў **Мікола ГАЙДУК.**




## Рыхтуюць канцэрт у падтрымку маленькага маладзечанца

МАЛАДЗЕЧНА

Свята «Тэрыторыя сэрца» пачнецца а 19 гадзіне 11 жніўня ў амфітэатры.

Выступяць салісты тэатра песні «Мерыдыян» у дапамогу хлопчыку **Цімафею Рацю**. Ціма хворы на ДЦП, каб дапамагчы яму, неабходна праходзіць курсы рэабілітацыі. Таму на гэтым дабрачынным мерапрыемстве будуць яму збіраць грошы.

Уваход бясплатны.

Сярод гледачоў разыграюць «Добрую латарэю».

На канцэрце вы пачуеце аўтарскія песні і хіты розных гадоў. Вядучымі канцэрта будуць **Алеся Агінская**, **Сяргей Лебедзеў**, **Ганна Рухадзэ**.

## Адмянілі шматразовыя адтэрміноўкі ад войска для адукацыі

Аляксандр Лукашэнка падпісаў закон «Аб змяненні законаў па пытаннях эфектыўнага функцыянавання ваеннай арганізацыі дзяржавы», паведамляе БелТА.

Захаваныя ўсе адтэрміноўкі па стане здароўя, сямейным становішчы і іншыя, якія даваліся раней. Змены закранулі наданне адтэрміноўкі для працягу адукацыі: уводзіцца прынцып аднаразовасці адтэрміноўкі.

Таксама закон абмяжоўвае прыняцце на дзяржаўную службу, службу ў органах сістэмы забеспячэння нацыянальнай бяспекі грамадзян, якія ўхіляліся ад прызыву.

Усе адтэрміноўкі для працягу адукацыі, нададзеныя да ўступлення ў сілу закона, будуць захоўвацца да страты падстаў, па якіх нададзеныя. Закон уступае ў сілу праз дзесяць дзён пасля афіцыйнага апублікавання.

**Паводле БелТА.**

## На чыгунцы правялі мерапрыемства «Пасажыр»

МАЛАДЗЕЧНА

Спецыяльнае комплекснае мерапрыемства «Пасажыр» правялі ад 29 да 27 ліпеня.

Яго зладзілі для асабістай і маёмаснай бяспекі пасажыраў і членаў брыгад цягнікоў. Таксама для папярэджання злачынстваў у рухомым саставе, на станцыях і прыпыначных пунктах.

Мерапрыемства праводзілі з ваенізаванай аховай, сябрамі дабраахвотнай дружыны.

За час мерапрыемства суправаджалі восем цягнікоў рэгіянальных ліній эканам-класа мінскага накірунку. За гэты перыяд злачынстваў не было зарэгістравана.

**Як не стаць ахвярай злачынства ў цягніку**

каштоўныя рэчы трымайце пры сабе

не пакідайце рэчы без нагляду

не давайце свае рэчы незнаёмым

не піце алкаголь у цягніку

не давайце мабільны тэлефон незнаёмым

не спіце ў цягніках, калі маеце пры сабе грошы або каштоўныя рэчы.

Калі вы сталі ахвярай або сведкай злачынства ў цягніках, то звяртайцеся ў транспартную міліцыю: 8 (017) 225-02-02 або 102.

**Маладзечанскае АУСТ.**

# «Абы палюбоўна». У Любках ладзяць свята вёскі

**Імпрэза адбудзецца 17 жніўня ў вёсцы Любкі Вілейскага раёна.**




Свята вёскі ладзяць жыхары Любак у супрацоўніцтве з Іжанскім сельскім выканкамам.

Як паведаміла адна з арганізатараў свята **Вольга Трубач**, галоўная ідэя ініцыятывы – сустрэча аднавяскоўцаў: жыхароў, выхадцаў, тых, хто мае ў Любках лецішчы.

### Што будзе на свяце

– Мы хочам стварыць пляцоўку, дзе ажывуць успаміны, хочам правесці такое настальжы-свята, свята-сустрэчу, – тлумачыць Трубач. – Каб людзі маглі ўспомніць мінулае, адчуць духоўную сувязь з гэтым месцам. Для «дачнікаў», якіх тут ужо нямала, гэта магчымасць даведацца пра гісторыю вёскі з першых вуснаў. Для выхадцаў з Любак – магчымасць акунуцца ў дзяцінства і маладосць. Для саміх жыхароў – зразумець, што вёска будзе жыць.

> **Чакаем і гасцей, усіх, хто хоча заспець сапраўдную беларускую вёску без сучаснага пластыкавага антуража.**

Па словах арганізатара, гасцей свята чакае фотавыстава, складзеная з сямейных здымкаў любэцкіх. Будуць экскурсіі ад мясцовых жыхароў па адметных мясцінах Любак. На дзіцячай пляцоўцы бабулі і дзядулі навучаць малых гульням і забавам свайго дзяцінства. Усе разам зробяць вялікі калаж, прысвечаны святу. Зладзяць спеўны сход, дзе ў якасці салістаў выступяць бабулі з суседніх Каралеўцаў.

### Танцы і карта

Пазнавальнай будзе прэзентацыя карты «Любкі: сядзібы і ваколіцы», з нанесенымі аўтэнтычнымі вясковымі назвамі.

– Яшчэ правядзём майстар-клас па вілейскіх танцах. Ёсць папярэдняя дамова з віляйчанкай **Зінаідай Губаравай-Крупскай**, якая ведае каля сотні танцаў, а таксама са знакамітым вілейскім цымбалістам **Іванам Валынцом**, – расказвае пра планы Вольга.

Заключным акордам стане танцавальная вечарына да раніцы. На тым самым месцы, дзе ладзіла танцы любэцкая моладзь.

Арганізатары запрашаюць наведаць Любкі і нагадваюць, што асабісты ўнёсак на агульны стол вітаецца.

**Ірына ТРУБАЧ, Вілейка.**

## ДАІ прапануе забіраць правы ў п’яных кіроўцаў на пяць гадоў

**Гэта закране тых, у каго знойдуць больш за 0,8 праміле алкаголю ў крыві.**

Дзяржаўныя органы хочуць падняць штрафы за язду ў п’яным выглядзе да 200 базавых велічынь і забіраць правы на пяць гадоў.

ДАІ сумесна з іншымі структурамі хоча ініцыяваць змены ў Адміністрацыйны і Крымінальны кодэксы Беларусі.

– Прапанова наша такая: падзяліць стан алкагольнага ап’янення кіроўцы на дзве ступені. Першая ступень – ад 0,3 да 0,79 праміле, для гэтай катэгорыі парушальнікаў варта павялічыць штраф да 100 базавых велічынь і пазбаўленне правоў на тры гады. Другая ступень – ад 0,8 праміле і вышэй – такім кіроўцам будзе пагражаць штраф да 200 базавых велічынь і пазбаўленне правоў на пяць гадоў, – растлумачыў начальнік упраўлення ДАІ УУС Мінаблвыканкама **Міхаіл Акуліч**.

> **Таксама ў крымінальнае заканадаўства хочуць унесці змены, якія тычацца паўторнага парушэння на працягу года і ДТЗ са смяротным зыходам.**

– Мы бачым, што ДАІ хоча працаваць дыферэнцыявана, і думаю, гэта прапанова нядрэнная, – пагадзіўся з ДАІ член пастаяннай камісіі па нацыянальнай бяспецы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі **Аляксандр Багдановіч**.

**Паводле minobl.mvd.gov.by.**

# Таршэр

У сучасным свеце мы перанасычаныя лішняй інфармацыяй. Часам, каб знайсці добрую кнігу ці фільм, мы губляем не адзін вечар. Таму вырашылі рабіць падборкі самых вартых твораў мастацтва, каб нашы чытачы маглі знайсці ў іх падказкі.

Гэта могуць быць кнігі, фільмы, серыялы, музыка ці карціны. Важна, каб гэта былі сапраўды вартыя ўвагі творы. Каб вы, вярнуўшыся з работы дамоў, ведалі, як з карысцю можна бавіць вечар.

Героямі рубрыкі мы запрашаем нашых чытачоў і герояў публікацый. Яны выбіраюць свой спіс і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вечарах з таршэрам будзе больш твораў, на якія трэба звярнуць увагу.

# Мы прывыклі, што казка заканчваецца вяселлем. Але з гэтага ўсё толькі пачынаецца

**Герой сённяшняга выпуску «Таршэра» – Барыс Прадуха. Ён працуе кіраўніком фізкультурна-аздараўленчых праектаў у шэрагу IT-кампаній, майстар міжнароднага класа па масажы.**



Барыс Прадуха ў доме Міхаіла Булгакава.

Фота забяспечанае Барысам ПРАДУХАМ.

Калі я чытаю кнігі, то толькі ў папяровым варыянце. У электронным выглядзе даюцца толькі кнігі для хуткага азнаямлення, пракруціць сюжэт. А калі неабходна авалодаць інфармацыяй кнігі, яе трэба пражыць, адчуць, пасябраваць з ёй. Тады яна раскрые таямніцы, раскажа, што хаваецца паміж радкоў – самае патаемнае, што мы называем душой.

У кожнай кнізе ёсць душа. У мяне ёсць такая жывая кніга. Купіў у мінулым годзе на выставе ў Маскве, куды спецыяльна езджу па рэдкія кнігі. Там адбыўся адзін выпадак, які дапамог зразумець, што кнігі жывуць сваім жыццём.

Пакуль чакаў цягнік, прагульваўся па вячэрняй Маскве з сумкай новенькіх кніг з аўтографам аўтара. І тут убачыў, што аднаму мінаку кепска, ён упаў і не дыхае, людзі вакол не ведаюць, што рабіць, чакаюць «хуткую дапамогу».

Я ведаю, як аказаць першую дапамогу, вывучаў у Нідэрландах. Але нічога не спатрэбілася рабіць. Як толькі падышоў і паставіў сумку з кнігамі каля хворага, ён адразу апрытомнеў і пачаў дыхаць. Здзівіўся гэтаму супадзенню і зірнуў на кнігі. Зверху стосу на мяне глядзела вокладка той самай жывой і загадкавай кнігі – «Нябесны Егіпет. Таямніца чорнай зямлі». Аўтар Андрэй Цюняеў – акадэмік, пісьменнік, журналіст, вучоны.

Кнігі – не проста прадмет для чытання, яны нейкім інфармацыйным метадам уплываюць на навакольнае асяроддзе. Любыя прадметы, фільмы, карцінкі могуць несці пазітыўную або разбуральную інфармацыю.

Больш за ўсё люблю чытаць казкі, крыху пішу іх сам. Маю кнігу таксама Андрэя Цюняева «Казкі з бібліятэкі Івана Гразнага». У ёй сабраныя казкі ў арыгінале, а не ў скарочанай версіі савецкіх мульцікаў.

**Калі ў СССР казкі заканчваліся на тым, што герой ажаніўся з каханай, і на гэтым казцы канец, то ў арыгінале даведваешся, што жаніцьба – толькі пачатак прыгодаў. Як і ў жыцці.**

У іх не заўсёды героя чакае хэпі энд. Часта ён сутыкаецца са здрадай самых блізкіх і паміраe, ператварыўшыся ў чароўны камень, дрэва, раку. У мяне ёсць хобі – купляю дарэвалюцыйныя кнігі, фотаздымкі, гравюры. Маю арыгінал «Курса масажу і гімнастыкі» яшчэ 1909 года і арыгінал кнігі пра графа Каліостра 1880 года. Гэтыя кнігі пахнуць часам, мінулым, даўнінай і даюць асаблівыя адчуванні пра тагачасных людзей, іх жыццё, дух, культуру.

Фільмы люблю глядзець дома, хаця часта хаджу ў кінатэатры і тэатры. Тэатр пакідае часцей сумнае пачуццё, чым узнёслае. Многія любімыя акцёры ў тым узросце, калі цяжка іграць складаныя ролі, а новыя артысты малавядомыя.

З фільмаў часцей гляджу ўсе буйныя прэм'еры. У іх рэжысёры закладаюць ідэі, якія чакаюць нас у рэальнасці. Калі фільм спадабаўся, пасля куплю яго ў сваю калекцыю блюрэй-дыскаў. Сябры часам пытаюцца, навошта я купляю дыскі, можна ж бясплатна сцягнуць з інтэрнэта. Па-першае, сцягваць непрыгожа і некультурна. Ні аўтары карціны, ні акцёры не змогуць карміць сем'і, калі іх працу будуць красці відэапіраты. Усё павінна быць сумленна, інакш няма сэнсу добра рабіць сваю справу. Па-другое, якасць фільма на дыску нашмат лепшая і дае нашмат больш уражанняў ад фільма. Па закону захоўвання энергіі трэба аддаць столькі, колькі хочаш атрымаць.

Яшчэ ў мяне ёсць усе фільмы з Ліянам Нісанам, Джоні Дэпам, бязумоўна, Джоні Уікам – Кіяну Рыўсам. Сярод расійскіх фільмаў люблю ўсе карціны з Аляксеем Гуськовым – «Зборшчык смецця», «Таёжны раман», «Класік». Атрымалася зрабіць з ім сэлфі на прэм'еры кіно «Вечнае жыццё».

Люблю савецкія фільмы. Нядаўна пераглядаў «Белыя росы» з Карачанцавым.

### Спіс маіх любімых твораў мастацтва:

1. «Сэрцы трох» Джэка Лондана.
2. «Вечары на хутары бліз Дзіканькі» Мікалая Гогаля.
3. «Бедныя сваякі» Бальзака.
4. «Шлях мага» Паола Каэльё.
5. «Людзі на балоце» Івана Мележа.
6. Кнігі Андрэя Цюняева: «Душа механізма», «Барацьба за сусветны трон».
7. «Хронікі капітана Блада» Рафаэля Сабаціні.

Ад рэдакцыі: названыя творы мастацтва – выбар героя публікацыі. Творчасць Андрэя Цюняева многія навукоўцы крытыкуюць як псеўданавуковую.

# Неверагодная спёка, творчасць і шчаслівыя ўсмешкі.
## Як прайшло «Ракуцёўскае лета-2019»


Спявае Ганна Філістовіч, эстрадная студыя «Вясёлыя ноткі» Красненскага СДК.


Вянок – нязменны атрыбут свята, прысвечанага Багдановічу. Так называецца адзіны прыжыццёвы зборнік паэта.


На «Ракуцёўскае лета» прыязджаюць цэлымі сем'ямі.


Выступае паэт Усевалад Сцебурака.


Вольга Дашкоўская, сваячка Максіма Багдановіча, – часты госць свята.

**Сёлетняе свята беларускай паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета» не здрадзіла традыцыям.**

Сонца не пашкадавала сіл, каб годна прапячы невялікую вёску на Маладзечаншчыне. У Ракуцёўшчыну, як ужо 35 год запар, 28 ліпеня прыехалі людзі, неабыякавыя да творчасці Максіма Багдановіча і беларускай культуры агулам.

Сустрэча ля памятных камянёў, канцэртная праграма з вершамі і песнямі, актыўнасці ад партнёраў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча – прыкладны сцэнар таксама вядомы: тыя, хто дабіраецца на фэст з розных куткоў Беларусі, ведаюць, што паветра ў Ракуцёўшчыне ў гэты дзень будзе прасякнутае беларускім словам у, бадай, самай значнай у краіне канцэнтрацыі. Ад таго і колькасць гасцей свята ад году ў год не меншае.

Фальварак Ракуцёўшчына – былая сядзіба шляхціца Вацлава Лычкоўскага. Летам 1911 года ў у сядзібе гасцяваў беларускі паэт Максім Багдановіч. Штогод тут адбываецца свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета», прысвечанае яго памяці.

**Фотарэпартаж Ігара ПАЛЫНСКАГА.**

Больш фота – **на rh.by!** Адсканыйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **bit.ly/rleta2019**




Вілейскі паэт і бард Уладзімір Цанунін адладжвае гітару.


На сёлетнім свяце было шмат актыўнасцяў для дзяцей.


Зміцер Мурашка і Юлія Літвінава частавалі гарбатай.


Спявае лідар гурта «RECHA» Андрусь Такінданг.



Саша Грачанік прыгатавала салату.

# Бацькі былі ў шоку, што збіраюся стаць поварам

## Дзяўчына расказвае, чаму не пашкадавала, што паступіла на кулінара

**Ад ранняга дзяцінства для навучэнкі кулінарнага каледжа Аляксандры Грачанік самым прывабным месцам у доме была кухня. Малая магла гадзінамі назіраць за тым, як мама гатуе. А ў пяць гадоў дзяўчынцы захацелася ўпершыню парадаваць родных сваім шэдэўрам.**

МАЛАДЗЕЧНА

– Першая мая страва, – зліплыя макароніны, – успамінае Саша. – У той раз я іх пераварыла, таму выйшла каша, якую потым яшчэ паставіла настаяцца, паліла кетчупам і выкінула.

На гэтым юны кулінар не стала спыняцца, з кожным годам становілася больш дасведчанай. Цяпер ніводная ўрачыстасць не абыходзіцца без яе святочнага стала.

Асаблівую ўвагу Грачанік надае мясу. Дзяўчыну захапляе сам працэс. Каб прыгатаваць тыя ж самыя адбіўныя або стэйк, спачатку неабходна ўявіць структуру кавалка, гэта дапаможа зразумець, як лепей яго прасмажыць.

Паколькі гатаванне прыносіла гераіні толькі задавальненне, у восьмым класе яна ўпершыню задумалася, каб зрабіць яго справай усяго жыцця. Калі прыйшоў час рабіць канчатковы выбар, ад якога залежала будучыня, сумненні не пакідалі. Аднак у канцы 11 класа Саша сабралася з сіламі і з упэўненасцю абвясціла бацькам, што збіраецца стаць кухарам.

**Для родных было шокам, што іх здольная дзяўчынка, якую яны бачылі ў ролі стаматолага або лагіста, абрала такі шлях.**

– Іх пужала, што я іду ў каледж, – распавядае Аляксандра, – але потым патлумачыла ўсе плюсы і мінусы будучай прафесіі, даказала, што хачу гэтым займацца, і мяне падтрымалі.

На занятках будучым кухарам даюць шмат карыснага. Распавядаюць, як збіраць і разбіраць кухонныя машыны, тлумачаць, якія прадукты з'яўляюцца добрымі і з чым спалучаюцца, дзе і як іх захоўваць. На семінарах вучацца гатаваць. Навучэнцы праходзяць практыку падчас навучальнага года, каб атрыманыя веды не паспелі знікнуць.

– Ніколі не забуду свой першы дзень на практыцы ў рэстаране беларускай нацыянальнай кухні, – кажа Саша. – Адчувала сябе маленькім качанём, якое нічога не ведае. На шчасце, гэтыя думкі хутка развеялі. Я думала, што адпраўляць чысціць бульбу або кацёл, але літаральна з першых хвілін адправілі наразаць вяндліну, селядзец, крабавыя палачкі для салаты. Таму прывыкла хутка і праз пару дзён стала хадзіць як на працу.

У каледжы пануе сяброўская атмасфера. Часта поварам прыходзіцца працаваць групай, а гэта не проста. Часам узнікаюць рознагалоссі наконт афармлення, дадатковых кампанентаў і гарніраў, аднак навучэнцы імкнуцца знайсці кампраміс, бо яны каманда.

За час вучобы дзяўчына стала крытычна ставіцца нават да падрыхтоўкі дамашняй вячэры.

**– Цяпер для мяне падрыхтоўка страў – гэта мастацтва, – гаворыць дзяўчына. – Повара можна параўнаць з мастаком, які піша карціну. Калі зробіць не там мазок, дадасць не той інгрэдыент, то ўсё пойдзе прахам.**

Калі прыходзіць на кухню, Аляксандра зноў і зноў пераконваецца, што яе выбар правільны. Гатаванне патрабуе шмат сіл і энергіі, а ім уласціва заканчвацца. Прыйсці ў тонус пасля цяжкага дня дапамагае прагляд любімых «Дзяўчат», кніга з захапляльным сюжэтам або проста гутарка з цікавымі людзьмі. Пасля заканчэння каледжа Аляксандра плануе пайсці вучыцца далей і адкрыць уласны рэстаран.

**Ірына БУБНОВА,**
**студэнтка факультэта журналістыкі БДУ.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



Арына Вярхоўская.

# «Перапытвала ў мамы дзесяць разоў, ці праўда, што я паступіла»

## Маладзечанка расказвае, як прайшла на бюджэт журфака

МАЛАДЗЕЧНА

**– У першыя хвіліны не паверыла, што прайшла на бюджэт. Гэта было здзіўленне, радасць, шок, – дзеліцца навучэнка аб'яднання па інтарэсах школы журналістыкі «Маладзік» Арына Вярхоўская.**

– Перапытвала ў мамы дзесяць разоў, ці сапраўды я паступіла.

Паступленне на гэты факультэт у адну з лепшых ВНУ краіны праходзіць у два этапы. На першым абітурыентам неабходна здаць ЦТ па рускай мове або беларускай, а таксама па гісторыі Беларусі. З гэтай прыступкай дзяўчына справілася, аднак адзначыла, што новая сістэма падліку падвяла.

Пры выбары мовы Арына аддала перавагу беларускай, таму што ў ёй была больш упэўненая.

Наступным крокам да мары стала здача творчых экзаменаў. Падчас іх дзяўчына думала пра добрае, гэта дапамагло справіцца з хваляваннем. На творчым сачыненні з трох тэм Арына абрала журналісцкую, бо накід да яе быў ужо гатовы. На творчай гутарцы абітурыентцы выпаў білет з пытаннем «Духоўныя каштоўнасці Беларусі».

– Камісія настроеная добразычліва, але адысці ад тэмы не дазволіла, – прызнаецца студэнтка. – Тэма не самая лёгкая, але выратавалі публікацыі, іх было 12. За гэта дзякуй «Маладзіку» і кіраўніку гуртка **Наталлі Шульжыцкай**.

На працягу трох гадоў дзяўчына сумнявалася, ці паступаць на журфак. Палохалі высокія прахадныя балы.

Летась прахадны бал на бюджэт быў роўны 356, а ў гэтым знізіўся да 323, таму абітурыентам 2019 года пашанцавала.

– Я вагалася, таму спачатку падала дакументы на іншы факультэт БДУ, а потым забрала. Хацела перанесці ў БДУКМ, але забылася ў прыёмнай камісіі пашпарт, – успамінае студэнтка, – вярнулася і вырашыла, што гэта знак.

У фінал навучэнка выйшла з балам 351 з 400 і аказалася на журналістыцы (друкаваныя СМІ).

Аб чым не шкадуе, галоўнае, што прайшла, ды на бясплатнае.

Доўгі час Арына марыла пра спецыяльнасць журналістыка (аўдыёвізуальная), таму аддавала перавагу менавіта гэтаму накірунку. Акрамя гуртка «Школа журналістыкі» наведвала маладзечанскую тэлестудыю «Наш час». Працавала карэспандэнтам на розных мерапрыемствах.

Разам з тэлестудыяй удзельнічала ў дзіцячым Еўрабачанні ў якасці журналіста, а падчас уступнай кампаніі з'ездзіла папрацаваць у Польшчу. Цяпер студэнтка мусіць працягнуць супрацоўніцтва з тэлебачаннем.

**Ірына БУБНОВА,**
**студэнтка факультэта журналістыкі БДУ.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

# «У Маладзечне ёсць выдатныя пляцоўкі»

## Валейбалістка тлумачыць, чым адрозніваецца класіка ад «пляжкі»

**Ганна Антасюк вучыцца ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце, там жа гуляе за мясцовы валейбольны клуб «Надзея». Першыя два сезоны каманда выступала ў вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі. Наступныя тры сезоны, уключаючы і гэты, клубу з-за фінансавання давялося заяўляцца ў дывізіён Б.**

Усе тры гады запар «Надзея» станавілася пераможцай чэмпіянату. У адным з сезонаў Ганна атрымала асабістую ўзнагароду – «Лепшаму сувязному чэмпіянату».

Сувязны – гулец, які стварае нападаючаму выгадную пазіцыю для ўдару.

### «Пляжны валейбол значна складаней»

– Калі параўноўваць класічны валейбол і пляжны, то для мяне пляжны значна больш складаны, пачынаючы з умоў надвор'я. Спякота +35 градусаў, дождж, моцны вецер – спаборніцтвы ўсё роўна праводзяць. І кожны гулец павінны быць універсалам.

Універсал – гэта гулец, які ўмее згуляць як у абароне, так і ў нападзенні, плюс да таго трэба аддаць добрую перадачу.

Ганна кажа, што ўвесь час трэба ўлічваць, што спартсмен пастаянна бегае на пяску. З гэтага вынікаюць цяжкасці: складана перамяшчацца, скакаць і іншае. Гульцы хутка марнуюць сілы, і ўвогуле гэта зусім іншая фізічная нагрузка, чым у зале. Што тычыцца падрыхтоўкі да гульняў і размінкі, то ніякіх адрозненняў і няма.

### Раіць пагуляць у «пляжку» ў Маладзечне

Спартсменка любіць пляжны валейбол не менш за класіку. Яна расказвае, што, калі пачала займацца валейболам, трэніроўкі пераважна праходзілі ў зале, але як з'яўлялася магчымасць і дазвалялі ўмовы надвор'я, адразу пераходзілі на пясок.

Антасюк тлумачыць, што ёй падабалася, калі трэніроўкі доўжыліся па пяць гадзін. Каманда адразу выконвала ўвесь трэніровачнай план, а пасля заставаліся з дзяўчатамі і гулялі да самага вечара. Валейбалістка ўспамінае, што ўжо ў канцы красавіка адкрывалі пляжны сезон.

– У парку ў Маладзечне ёсць выдатныя пляцоўкі для пляжнага валейбола. Там пастаянна праводзяць міжнародныя і рэспубліканскія спаборніцтвы, універсіяды, чэмпіянат і Кубак Беларусі. Ведаю, што любы ахвотны ў вольны час можа прыйсці туды і пагуляць. Галоўнае, каб было жаданне і добры настрой.

### Пачынала кар'еру ў Маладзечне

Ганна прыйшла ў валейбол 11 гадоў таму з-за сваёй малодшай сястры. Яна пастаянна прыходзіла пасля трэніровак дадому і дзялілася, як ёй падабаецца, якія цікавыя трэніроўкі і вельмі добры трэнер. Праз некаторы час Ганна выпадкова патрапіла да сястры на трэніроўку, чакала яе на лаўцы і назірала за ўсім працэсам.

– Пасля заканчэння трэніроўкі да мяне падышоў трэнер сястры і спытаў, ці не хачу я паспрабаваць. Пагадзілася, так і трапіла ў каманду, – распавядае валейбалістка.

**На працягу пяці год Ганна гуляла ў валейбол у Маладзечне.**

Па яе словах, гэта быў дзіцячы валейбол, таму што яны толькі пачыналі шлях у гэтым спорце. Удзельнічалі ў дзіцячай лізе, розных рэспубліканскіх спаборніцтвах, аматарскай лізе Мінска. Ганна ўспамінае свайго першага трэнера – **Валерыя Віктаравіча Шумілава**:

– Ён знаходзіў выйсце і даваў нам магчымасць расці і развівацца як гульцам, нягледзячы на ўсе цяжкасці. А тады яны былі заўсёды, асабліва фінансавыя.

**Настасся УТКІНА.**


Фота з асабістага архіва Ганны АНТАСЮК.

Ганна Антасюк.

# «Мы зрабілі тое, аб чым марылі ўжо некалькі год»

## Валеры Макарэвіч распавядае, як беларуская зборная выйшла на чэмпіянат свету па футболе

**Беларускія футбалісты-пляжнікі ўпершыню выйшлі на чэмпіянат свету. У камандзе гуляе варатар Валеры Макарэвіч, які жыве ў Смаргоні.**

Перад кваліфікацыяй да чэмпіянату свету футбалісты выступілі на Еўрапейскіх гульнях. Беларуская зборная заняла перадапошняе месца. Макарэвіч распавядае, што пасля такога выступлення было расчараванне, таму што разлічвалі на лепшы вынік.

– Гэты правал і песімістычны настрой пляжнафутбольнай супольнасці перад паездкай паўплываў на каманду. У дадатак да асабістага жадання атрымаць пуцёўку на чэмпіянат свету вельмі хацелася даказаць усім, што мы здольныя скакаць любую вышыню, – кажа футбаліст.

На кваліфікацыі зборная гуляла з моцнымі сапернікамі. Валеры лічыць, што цяжкай гульнёй была сустрэча з італьянцамі.

– Нам супрацьстаялі не толькі дванаццаць гульцоў "скуадры-адзуры" *(так называюць італьянскую зборную з-за колеру формы – «РГ»)*, а і два чалавекі са свісткамі, якія прымалі неверагодныя рашэнні і ціснулі на нас усю гульню. Таму гэта вікторыя ўдвая прыемная, мы нарэшце зрабілі гэты апошні крок і прайшлі ў асноўную частку чэмпіянату свету.

Валеры Макарэвіч родам з Ліды. Футбаліст кажа, што адтуль падчас кваліфікацыі была падтрымка з боку бацькоў, сястры і знаёмых. Жонка Валерыя разам з дзецьмі ў гэты час была ў Смаргоні – яна адтуль родам.

– Было неймаверна шмат паведамленняў з віншаваннямі з усіх куткоў краіны і не толькі. Нам зычылі толькі перамогі, за што ўсім шчыры дзякуй.

Пасля гульні беларусаў з італьянцамі гулялі Партугалія і Польшча. Гэтая гульня многае вырашала для беларускай зборнай у кваліфікацыі: перамога першых дазваляла беларускай зборнай кваліфікавацца ў Парагвай, а гэта значыць – беларусы ўпершыню паехалі б на чэмпіянат свету.

Валеры кажа, што каманда вырашыла застацца на трыбунах і паглядзець гульню. Прызнаецца, што было эмацыйна цяжка глядзець матч партугальцаў і палякаў.

– Разам з некаторымі хлопцамі ў сярэдзіне першага перыяду не вытрымаў напружання. Таму сышлі са стадыёна, бо спакойна назіраць было вельмі складана. Вырашылі пашпацыраваць. І калі гулялі, чулі рэха абвестак аб забітых мячах партугальцамі.

Пачуцці неперадавальныя. Мы здзейснілі тое, аб чым марылі ўжо некалькі год.

**Настасся УТКІНА.**



Фота з асабістага архіва Валерыя МАКАРЭВІЧА.

Матч са зборнай Італіі. Валеры Макарэвіч – справа.



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

5. Неабходны элемент у афармленні дакумента, без чага дакумент лічыцца несапраўдным.
6. Жылая сялянская пабудова, зрубленая з бярвення.
7. Друкаванне на пішучай машынцы.
9. У млекакормячых кроў чырвоная з-за жалеза, якое пераносіць кісларод. У некаторых малюскаў кроў блакітная, таму што гэту функцыю выконвае іншы метал.
11. Адзінка вымярэння работы, энергіі, а таксама колькасці цеплыні.
12. У гэтым знакамітым універсітэце ёсць чатыры кнігі, напісаныя на пергаменце з чалавечай скуры.
13. Фанаты хакейнага клуба з Дэтройта пасля кожнай закінутай шайбы кідаюць на арэну замарожаных іх. Традыцыя ўзнікла ў тыя часы, калі, каб атрымаць Кубак Стэнлі, камандзе было дастаткова ўзяць восем перамог.
18. Ачышчаць ад гразі, бруду вадой.
19. Іван Мележ: «… няясныя, няпэўныя, але яны клічуць. Нястрымна».
20. У гэтай краіне забароненая кніга «Аліса ў краіне цудаў», таму што ў ёй размаўляюць жывёлы.
22. Ствол спілаванага дрэва з неадсечанай верхавінай, ачышчаны ад сукоў.
23. У перакладзе з нямецкай мовы гэта значыць «ледзяная гара».
24. Рыба, якая ўмее плаваць хвастом наперад.
25. Літаратурны твор або кінафільм, прысвечаны раскрыццю таямніц, звычайна звязаных са злачынствам.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Ваеннае або цывільнае форменнае адзенне.
2. Радзімай гэтага персанажа казак лічаць горад Ульянаўск (Сімбірск). Слова, ад якога паходзіць яго імя, азначае рэшткі цеста ў дзяжы.
3. Запасы, крыніцы.
4. Частка, якая засталася.
8. Верхняе дамашняе або рабочае адзенне, якое захінаецца або зашпіляецца.
10. Слізістая абалонка поласці рота, якая пакрывае зубныя адросткі сківіц.
14. У рабаўладальніцкіх манархіях Старажытнага Усходу жорсткі самадзяржаўны правіцель.
15. Гэта самая дарагая карціна ў свеце, пра што сведчыць страхоўка на яе.
16. Дакумент з подпісам, які пацвярджае атрыманне чаго-небудзь.
17. Яны ёсць у пераважнай большасці людзей. Кожны з іх складаецца з некалькіх цёзак старажытнагрэчаскіх баявых адзінак.
19. Сціскаючы, рабіць мяккім, ператвараць расціраннем у мяккую масу.
21. Выбраны або прызначаны прадстаўнік арганізацыі, калектыву, дзяржавы, пасланец.
24. Група навучэнцаў, якія скончылі навучальную ўстанову адначасова.
26. Аўтаматычны прыбор, што замыкае або размыкае электрычны ланцуг пры пэўных умовах, на якія гэты прыбор павінны рэагаваць.
27. Круг заняткаў, абавязкаў.

## Адказы на крыжаванку з №30

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Мэбля. 4. Доказ. 5. Даліна. 10. Мітусня. 11. Чыкага. 13. Узвышша. 14. Віконт. 15. Рэкорд. 16. Дэфензіва. 17. Высока. 18. Шарэнга. 21. Сюжэт. 22. Мястэчка. 23. Тара. 26. Дэмантаж. 27. Муляж.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Маладосць. 2. Мясата. 3. Вячоркі. 6. Чалавек. 7. Ашмяны. 8. Умова. 9. Вышук. 12. Друкар. 15. Рэшка. 19. Расстрэл. 20. Ананас. 22. Мочка. 24. Удых. 25. Камяні.

## ● ГАРАСКОП НА 2-8 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Прыемныя клопаты і маленькія радасці – самая спрыяльная атмасфера, на фоне якой можна пабудаваць шчасце.



**ЦЯЛЕЦ.** Рызыка не заўсёды можа апраўдаць сябе. Перш чым пайсці ва-банк, добра вывучыце свае карты, а яшчэ лепш – падрыхтуйце план Б. Калі вы ўпэўнены ў сабе, гэта не сляпая рызыка, а прадуманы смелы ход.



**БЛІЗНЯТЫ.** Апошнім часам вам падаецца несправядлівым стаўленне іншых. Прыгадайце, нас часцей за ўсё ў іншых раздражняе тое, што раздражняе ў саміх сабе. Пастарайцеся быць больш цярплівымі і да сябе, і да іншых.



**РАК.** Ёсць перыяды, калі ісці на смелыя эксперыменты раяць самі зоркі. Нават калі вынік не прынясе патрэбнага поспеху, вы хацця б атрымаеце шчырае задавальненне.



**ЛЕЎ.** Каб знайсці адказ на пытанне, якое турбуе сёння, паспрабуйце паглядзець на яго нібыта з будучыні. Прыкінўшы наступствы і ўплыў на заўтрашні дзень, вам будзе прасцей зразумець, якое рашэнне неабходна прыняць цяпер.



**ДЗЕВА.** Вам зоркі раяць звярнуць асаблівую ўвагу на працу. Паднапружцеся, знайдзіце час, каб выканаць усе патрэбныя справы. А калі нешта не такое важнае, смела выкрэслівайце са свайго спіса і забудзьце.



**ШАЛІ.** Добрая прагулка ў адзіноце – тое, што вам цяпер неабходна. Дайце час пабыць сам-насам. Летнія цёплыя ночы спрыяюць такому баўленню часу. Гэта можа быць час на арэлях у вёсцы або прагулка па горадзе. Не палянуйцеся і пабудзьце з сабой у цішыні. Вынік вас здзівіць.



**СКАРПІЁН.** Пакуль вы баіцеся агучыць жаданні, яны не маюць паліва для развіцця. Каханне, як і поспех, спрыяе смелым. Калі вы нечага хочаце, зрабіце першы крок самі. І тады вашы самыя смелыя мары атрымаюць шанец стаць рэальнасцю.



**СТРАЛЕЦ.** Вас чакае прыемны фінансавы паварот – магчыма, вернуць доўг, пра які вы самі забылі. А можа нейкім іншым чынам грошы вас знойдуць.



**КАЗЯРОГ.** Самы час заняцца сваімі рэчамі. Арганізуйце генеральны разбор усяго, што хаваецца на паліцах і ў шафах. Разбярыце на тры групы: выкінуць, аддаць, пакінуць. Не шкадуйце рэчаў, якія ўжо страцілі выгляд, занясіце іх у сметніцу. Рэчы добрай якасці, якімі не карыстаецеся, аддайце тым, каму яны спатрэбяцца. Тое, што застанецца, прывядзіце ў добры выгляд.



**ВАДАЛЕЙ.** Усе мы рана ці позна сутыкаемся з тым, што вырасла з пасеянага намі зерня. Добра тое, што побач з пустазеллем вока радуюць прыгожыя кветачкі. Адзін позірк на іх дорыць упэўненасць, што ўсё гэтае зерне было вартае высілкаў. І такія кветачкі, без сумнення, заахвоцяць, каб у наступны раз вы ўбачылі поле з адной прыгажосці.



**РЫБЫ.** Клопат пра сям'ю – гэта святое. Але дазваляйце і сям'і клапаціцца пра вас. Няхай гэта будзе прыгатаваны кубак чаю або невялікі падарунак. Скажыце, чаго б хацелі вы самі, падкажыце блізкім.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | 4 | | | | 2 |
| | | 8 | | | | 1 | | 7 |
| | 5 | | 7 | | | 9 | 8 | |
| 3 | | 6 | 4 | | 9 | | | |
| | 1 | | | 3 | 2 | | | |
| 4 | 7 | | 6 | | | 3 | | |
| | | | 3 | 9 | | | | 5 |
| | | | | 5 | | 8 | 6 | |
| 5 | | | | | 6 | | | 4 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

# Запрашаюць на трохдзённы фэст «Дом ля возера»

ВІЛЕЙКА

**Сёлета свята пройдзе 9-11 жніўня ў Навасадах Вілейскага раёна.**

Уваход вольны.

На тэрыторыі свята будзе ўладкаваны кемпінг.

Удзельнікаў чакае аўтарская кухня, выступленні паэтаў і спевакоў, жывая музыка і разнастайныя танцы, лекцыі на розныя тэмы, прагляд кіно, спаборніцтва паміж рыбакамі.

Усё гэта пройдзе на атмасфернай пляцоўцы на беразе возера.

Вось некалькі актыўнасцяў, якія прапануюць на фэсце.

Турнір рыбаловаў будзе на беразе возера ў Навасадах ад 6 да 11 раніцы. Лавіць будзе можна толькі з берага і на адзін кручок. Улоў пойдзе на юшку для гасцей.

Пройдзе майстар-клас па сухім валянні.

Для бацькоў актуальнай можа быць тэма лекцыі намесніка старшыні Таварыства беларускай школы **Тамары Мацкевіч**. Ці варта забіраць тэлефоны на ўроках у школе? Як навучыць дзяцей правільна карыстацца інтэрнэтам? І ці дарослыя самі гэта ўмеюць? Як на нас уплываюць серыялы, якія мы глядзім, і сайты, якія чытаем? Гэтыя пытанні стануць тэмай адной з пляцовак свята.

**Аддзел інфармацыі.**




## Чытайце праз тыдзень

- «О, гэта дзядуля Ленін!». Чэх упершыню наведаў Маладзечна і завітаў у «РГ». Ён расказаў карэспандэнтам пра беларускую гасціннасць, ветлівых кіроўцаў і прасторныя вуліцы, якіх мала ў Еўропе.

## 3 жніўня, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 3-4 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +6,4°С у 1984 годзе
Максімальная тэмпература +28,9°С у 2016 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 29,3 мм у 1998 годзе

Паводле meteoinfo.by.



- ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы ставіцеся да змен у законе аб адтэрміноўках?



**Ян Чабай, школьнік:**
– Гэта несправядліва. Я збіраюся паступаць у Польшчу ў наступным годзе. Правучуся там тры гады, вярнуся ў Беларусь і буду абавязаны адслужыць. А я хачу працаваць і рухацца па кар'ернай лесвіцы, але гэта будзе немагчымым.



**Мікіта Мякшыла, студэнт:**
– Да адмены адтэрміновак стаўлюся дрэнна.



**Андрэй Рацъ, кіроўца:**
– Адмоўна. Напрыклад, калі чалавек хоча паступаць пасля атрымання сярэдняй адукацыі, трэба адтэрміноўка, таксама пасля вышэйшай навучальнай установы малады людзі паступаюць у аспірантуру, таксама патрэбная адтэрміноўка.



**Андрэй Рухля, страхавы агент:**
– Лічу такую адмену нематазгоднай. Гэта чарговы «сыры» закон.



**Вераніка Рабец, гаспадыня:**
– Не ведаю. Мне ўсё роўна, напэўна, пакуль мой сын маленькі.



**Алег Буслаеў, тэхнік па наладцы і выпрабаваннях:**
– З якога боку паглядзець на гэта. Цяжка адказаць. Мне ўжо без розніцы. А для моладзі, з пункту гледжання адкасіць, то стане складаней гэта рабіць.



**Вікторыя Вільтоўская, журналіст:**
– Вядома, я супраць адмены шматразовых адтэрміновак. Увогуле, за кантрактную армію.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

**Чытайце пра змены ў законе аб адтэрміноўках на старонцы №18.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№31 (1266) 2.08.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1204. Падпісана ў друк у 9.00 1.08.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.